*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 100 (4045)**

22 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Наступны нумар газеты «Народная Воля» выйдзе не 25, а 24 снежня.*

КУЛУАРЫ

## Перапрызначэнец

*У мінулую пятніцу дэпутаты зацвердзілі на пасадзе прэм'ер-міністра краіны Андрэя Кабякова. Аляксандр Лукашэнка нават не прыйшоў у Авальную залу, каб асабіста прадставіць свайго прызначэнца. Такое здарылася ўпершыню.*



Кандыдатуру Кабякова прадстаўляў дэпутатам не прэзідэнт, не кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, не старшыні палат Нацыянальнага сходу. Праект пастановы *«Аб дачы згоды прэзідэнту на прызначэнне А.У.Кабякова прэм'ер-міністрам»* прадстаўляў усяго толькі… старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Палаты прадстаўнікоў **Генадзь Грыцкевіч**. Чаму так непаважліва паставіліся да Андрэя Уладзіміравіча, застаецца толькі здагадвацца.

Дарэчы, чатыры дэпутаты прагаласавалі супраць гэтага прызначэння. Хто канкрэтна выказаў недавер Кабякову – не вядома, бо галасаванне было таемным.

**Алена НОВІКАВА.**

ДЗЕ ГЭТА ВІДАНА…

## Дэпутаты-рэкардсмены

Бюджэт краіны – гэта аб'ёмны дакумент у сотні старонак. Ці чытаюць яго беларускія дэпутаты, не вядома. Але калі чытаюць, дык яны проста рэкардсмены па хуткасці чытання.

Праект бюджэту Беларусі на 2016 год паступіў у Палату прадстаўнікоў вечарам 16 снежня. Але ўжо 17-га дэпутаты прагаласавалі за дакумент у першым чытанні, 18-га – у другім. У гэты ж дзень, 18 снежня, дакумент вывучылі і зацвердзілі члены Савета Рэспублікі. А між тым бюджэт – гэта не проста лічбы. Гэта тое, як краіна будзе жыць у 2016 годзе: каму дзяржава дапаможа, каго – абдзярэ што ліпку.

Галоўная выснова? Свет аб'едзеш і не знойдзеш другога парламента з такой "працаздольнасцю". Ці не таму жыццёвы ўзровень беларусаў з кожным годам падае?

**Алег СНОЎ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Анамальная зіма

*На гэтым тыдні захаваецца цёплае надвор'е. Сярэдняя тэмпература снежня чакаецца на 8°С вышэй за норму.*

*Пра гэта распавёў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметцэнтра* ***Дзмітрый Рабаў.***

***У сераду*** на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. Месцамі ўзмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +3...+9°С, максімальная днём +6...+12°С.

***У чацвер*** 24 снежня ноччу месцамі, днём па паўночным усходзе невялікія кароткачасовыя дажджы. У асобных раёнах туман. Тэмпература паветра на працягу сутак +3...+9°С.

***У пятніцу***, на Каляды, ноччу па поўначы краіны, днём месцамі кароткачасовыя дажджы. У асобных раёнах туман. Тэмпература паветра мінімальная ноччу 0...+5°С, пры праясненнях да -2°С; максімальная днём +2...+8°С.

У выхадныя плюсавая тэмпература паветра захаваецца.

**Вера ВІР.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## За што былы міністр гандлю Валянцін Чаканаў кінуты за краты?

*Учора Следчы камітэт заявіў, што "праводзяцца працэсуальныя дзеянні па крымінальнай справе аб злачынстве карупцыйнай скіраванасці ў дачыненні да былога міністра гандлю".*



Дзеянні падазронага кваліфікаваны па ч.3 арт.426 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – "наўмыснае здзяйсненне службовай асобай дзеянняў, якія выходзяць за межы службовых правоў і паўнамоцтваў, што нанесла ўрон у буйным памеры альбо істотны ўрон правам і законным інтарэсам грамадзян ці дзяржаўным альбо грамадскім інтарэсам, а таксама наўмыснае здзяйсненне службовай асобай дзеянняў, якія выходзяць за межы яе паўнамоцтваў".

ПАСЛЯСЛОЎЕ

## Свая гульня

У мінулыя выхадныя ўсе беларускія СМІ паведамілі пра сустрэчу Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Міжнароднай шахматнай федэрацыі Кірсанам Ілюмжынавым. Згодна з паведамленнем, размова ішла выключна пра шахматы.

Магчыма, так яно і ёсць. Хаця Аляксандр Лукашэнка ніколі не з'яўляўся прыхільнікам гэтага віду спорту. Затое ёсць іншыя гульні, якія цікавяць і Ілюмжынава, і Лукашэнку.



Справа ў тым, што вядомы шахматны дзеяч, экс-прэзідэнт Калмыкіі Кірсан Ілюмжынаў – тая самая асоба, якая трапіла пад санкцыі Злучаных Штатаў Амерыкі па абвінавачанні ў кантактах з Башарам Асадам і скупцы нафты ў тэрарыстаў "Ісламскай дзяржавы".

Нагадаем, што даходы ад продажу нафты – галоўная крыніца даходаў гэтага тэрарыстычнага халіфата. Але каму яны яе прадаюць? Расія абвінаваціла Турцыю, Турцыя – Расію. Злучаныя Штаты Амерыкі ў сваю чаргу ўказалі канкрэтна на Кірсана Ілюмжынава і звязаныя з ім бізнес-структуры, наклаўшы санкцыі і замарозіўшы рахункі.

Аляксандр Лукашэнка дзіўным чынам спрабуе кантактаваць з усімі бакамі канфлікту. Ён паспеў ужо сустрэцца і з прэзідэнтам блізкага да Турцыі Азербайджана Ільхамам Аліевым, і з прэзідэнтам Турцыі Рэджэпам Эрдаганам, і з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным… Дый увогуле вопыт сведчыць, што беларускі кіраўнік ніколі не адмаўляўся палавіць рыбку ў баламутнай вадзе. Так што размова падчас сустрэчы з Кірсанам Ілюмжынавым, напэўна, ішла не толькі пра шахматы.

**Алена НОВІКАВА.**

ЗНАЙ НАШИХ!

## Белорусы попробуют попасть в тройку лучших команд «Дакара»

*Белорусы из «МАЗ-СПОРТавто» планируют войти в число трех лучших команд и в первую пятерку экипажей на предстоящем ралли-рейде «Дакар-2016», который пройдет с 3 по 16 января в Аргентине и Боливии.*



Беларусь в ралли-марафоне представят три спортивных грузовика – два основных экипажа и «быстрая техничка» для оказания техподдержки во время гонки.

Участие в «Дакаре» – дорогое удовольствие. *«Только стартовые взносы на участие команды составили 330 тысяч евро. Но все это оправданно – гонщики «МАЗ-СПОРТавто» на протяжении уже 4 лет достойно представляли страну на самом престижном ралли-марафоне мира. Именно по этой причине мы выступаем партнером белорусской команды»*, – пояснил заместитель председателя правления ЗАО «Альфа-Банк» **Алексей Загарин.**

Состав экипажей белорусской команды на «Дакаре» не изменился. Так, в первой десятке гонку начнет 507-й экипаж, в который вошли **Сергей Вязович, Павел Гаранин и Андрей Жигулин**. Грузовик под №512 поведут **Александр Василевский, Валерий Козловский и Антон Запорощенко.** Экипаж «быстрой технички» под №541 представят **Владимир Василевский, Дмитрий Вихренко и Алексей Неверович.**

Команда вылетит в Буэнос-Айрес 24 декабря. Спортивные машины будут ждать гонщиков в морском порту недалеко от города – грузовики прибудут к берегам Аргентины на пароме. Затем последуют тренировочные заезды, подготовка техники к гонке, административные и технические проверки, а уже 2 января экипажи выедут на торжественный подиум. Кстати, сразу после него состоится пролог – короткий, но зрелищный спецучасток, результат прохождения которого определит стартовые позиции экипажей в первый день гонки.

Ралли-рейд «Дакар-2016» пройдет по территориям двух стран – Аргентины и Боливии. Начнется гонка 3 января в Росарио, а закончится 16 января в том же городе. За это время гонщикам предстоит проехать 9385 км в условиях бездорожья, высокогорья, каменистых участков, каньонов, солончаков, песчаных дюн и барханов. В классе грузовиков в марафоне примут участие 59 экипажей.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ПАЛІТКУХНЯ



## Таццяна КАРАТКЕВІЧ: «Буду балатавацца ў любым выпадку…»

*Былая кандыдатка ў прэзідэнты Таццяна Караткевіч заяўляе, што возьме ўдзел у парламенцкай кампаніі, нават калі выбарчае заканадаўства не будзе зменена.*

Як раней паведамлялася, прадстаўнікі правага крыла беларускай апазіцыі – Аб'яднанай грамадзянскай партыі, руху "За Свабоду" і аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" – прэзентавалі супольнае пасланне да беларускага грамадства, улад Беларусі і міжнароднай супольнасці.

У прыватнасці, у ім адзначаецца, што для дасягнення рэальных дэмакратычных змен у Беларусі і рэалізацыі права беларусаў на свабодныя і справядлівыя выбары неабходна:

– *змяніць выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку норм і правіл;*

– *зарэгістраваць усе дэмакратычныя грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі;*

– *стварыць роўныя ўмовы дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных СМІ.*

"Народная Воля" пацікавілася ў экс-кандыдаткі ў прэзідэнты **Таццяны Караткевіч,** ці не збіраецца яна адмовіцца ад удзелу ў парламенцкай кампаніі, калі тры гэтыя патрабаванні ўлады не выканаюць.

– *Я згодна з гэтымі патрабаваннямі*, – сказала яна. – *Тым не менш мы ўжо прынялі рашэнне, што будзем балатавацца падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў у любым выпадку. І гэта не залежыць ад таго, будуць улады паляпшаць для нас умовы альбо не. Я ўпэўнена, што трэба дамагацца выканання гэтых патрабаванняў, але дамагацца можна толькі тады, калі на нашым баку будзе большасць. Сёння ў нас такія ўмовы. Таму я лічу, што неабходна браць удзел ва ўсіх важных палітычных падзеях краіны для таго, каб фарміраваць большасць нашых прыхільнікаў. Толькі так мы зможам дамагчыся выканання тых умоў, пра якія марым.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАРОЧЫЯ СЛОВЫ

### Янка КУПАЛА:

*Ідуць народы з лета ў лета*
*К жыццю, к святлу з бяды, з жуды,*
*А мы, як цені з таго свету,*
*Ідзём, не знаючы куды.*
*..................................*
*Пад непрагляднай марай ночы*
*Нам не дабачыць нашых крыўд.*
*На свет падняць баімся вочы,*
*Сабе сам кожны ўжо абрыд.*



ПИСЬМА С КРЕЩАТИКА



Александр ФЕДУТА

## Запрет коммунистов

Украинская власть в отличие от белорусской продолжает следовать курсом на декоммунизацию страны. На прошлой неделе Киевский областной административный суд принял решение о запрете деятельности Коммунистической партии Украины.

…Недалеко от места, где я живу в Киеве, сохранились останки, быть может, самого ненужного памятника. Памятника Станиславу Косиору. Был такой верный ленинец-сталинец, с именем которого в Украине связывается одна из величайших трагедий за всю историю украинского народа – Голодомор. Это когда, желая отрапортовать вождю всех народов о превышении плана по обеспечению страны хлебом, партийное руководство республики довело богатейшую Украину до состояния голода. Косиору, правда, это не помогло: в свой час и его пустили под нож, как колос под серп. А то, что колос этот оказался пустым, – бывает и такое.

И вот этому руководителю Компартии Украины (в 1928–1938 годах) на улице Артема (еще одного пламенного большевика) стоял памятник. В интернете до сих пор можно найти его изображение.

В интернете – можно. В реальности – нельзя. Памятник снесли еще 21 ноября 2008 года – к 75-й годовщине Голодомора. Памятник эстетической ценности не представлял – рядовой, можно сказать, бюст, голова на постаменте. Демонтированный бюст убрали, а постамент с табличкой оставили – он стал грозным символом восстановления исторической справедливости. Это не как с древнегреческим Геростратом, сжегшим храм Артемиды. Герострата было приказано забыть. А в данном случае как раз обеспечили вечную память. Никто из умерших от голода не забыт, ничто из совершенных преступлений не забыто.

История Компартии Украины – история сложная и противоречивая. В ней нашли место не только Станислав Косиор, но и Петр Шелест, фигура сложная и противоречивая. В ней – не только Голодомор, но и промышленные гиганты, построенные в советскую эпоху. Как говорится, из песни слова не выкинешь.

Из песни слова действительно не выкинешь. А вот из практической повседневной политики партию выкинуть можно. И если Партия регионов просто растворилась и продолжает растворяться в нескольких новых политических проектах, пытающихся осваивать новую политическую реальность, то Коммунистическая партия в лице ее бессменного постсоветского руководителя Петра Симоненко модернизироваться не пожелала. Ей, как говорится, и приходится отвечать за всех.

Что это означает?

Люстрации по партийному признаку не предусмотрено. Логически это верно: люди состояли в легально действовавшей политической структуре и отстаивали свои убеждения. Но с момента запрета деятельности компартии и пропаганды коммунистической идеологии никто не сможет больше использовать партийную символику, регистрировать партию с названием «коммунистическая» и с записанным в качестве уставной цели построением коммунизма. Уже происходит переименование (по решению соответствующих органов местной власти) улиц, площадей и даже некоторых населенных пунктов, названных в честь бывших деятелей компартии или понятий, связанных с коммунистической идеологией. Свидетелями «ленинопада» были все желающие украинцы: памятники Ленину сносили по всей стране в массовом порядке. Кое-где, правда, до некоторого времени еще стояли.

В этом отношении символическим становится присуждение Нобелевской премии Светлане Алексиевич, описавшей в своем «пятикнижии» конец коммунистической утопии. Принятое через несколько дней после Нобелевской недели решение Киевского областного суда переводит поставленную нашей выдающейся писательницей «точку» на территории Украины из статуса эмоционального переживания в статус конкретного факта. Отсутствие массовых протестов, которыми еще недавно пугало бы руководство КПУ действующую власть, о том свидетельствует: ветераны партии и их юная смена не выходят на улицы, понимая, что общественное мнение в стране категорически против них.

Впрочем, муза Истории Клио – женщина ироничная. Нам не дано предугадать, в какой именно момент она в очередной раз ехидно улыбнется и даст коммунистам возможность собраться под свои знамена. Можно запретить символику – трудно уничтожить идею, даже если она абсолютно утопическая.

ЗА ТРИДЕВЯТЬ ЗЕМЕЛЬ...

# Молоко для Китая

В настоящее время процедуру допуска на рынок КНР проходят около 10 белорусских компаний, в том числе «Мозырские молочные продукты», Дятловский сыродельный завод, Глубокский молочноконсервный комбинат, Молодечненский молочный комбинат.

17 предприятий нашей страны уже имеют разрешение на поставки своей продукции в КНР. Среди них – «Савушкин продукт», «Бабушкина крынка», «Милкавита», «Здравушка-милк», «Верхнедвинский маслосырзавод».

Правда, пока успехи наших молокозаводов на китайском рынке достаточно скромные. В январе-сентябре 2015 г. из Беларуси в КНР экспортировано молока и сливок несгущенных всего на... 43 тысячи долларов США, а также молочной сыворотки на 254,3 тысячи долларов. Другие молочные продукты пока не поставлялись.

**Иван МИХАЛЕВИЧ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Чаму «Белая Русь» не становіцца партыяй?

Не сакрэт, што галоўная пралукашэнкаўская арганізацыя краіны – грамадскае аб'яднанне "Белая Русь" – задумвалася як партыя ўлады. Аднак партыяй пакуль не стала. Чаму?

«Белая Русь» мае арганізацыйныя магчымасці, каб стаць палітычнай партыяй. Але ў яе ёсць складанасці ў вызначэнні палітычнай асновы і ідэалагічнай скіраванасці.

Пра гэта заявіў старшыня грамадскага аб'яднання **Аляксандр Радзькоў**, падводзячы вынікі 2015 года, паведамляе агенцтва «Мінск-навіны».

Паводле слоў Радзькова, пошук ідэалагічнай платформы ўжо ідзе. «Але ці можам мы сёння з упэўненасцю сказаць, інтарэсы якога класа або якіх сацыяльных груп вызначаюць развіццё сучаснага беларускага грамадства? На якой платформе грунтавацца партыі?» – задаў пытанні кіраўнік арганізацыі.

Разам з тым ён паведаміў, што за 11 месяцаў 2015 года ў арганізацыю ўступілі каля 10 тысяч чалавек. Пасяджэнне рэспубліканскага савета арганізацыі вырашана правесці 30 студзеня 2016 года ў пашыраным складзе ў Малой зале Палаца Рэспублікі.

Такім чынам, выснова простая. "Белая Русь" мае задачы, але не ідэалогію. Задача – падтрымка дзеючага рэжыму. І ўсе, хто ўступае ў шэрагі арганізацыі, так бы мовіць, прысягаюць на вернасць. Але ідэалагічнага грунту пад усім гэтым проста не існуе. Толькі так можна "расшыфраваць" словы былога намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Радзькова.

ЖАХ!

# 5 мільёнаў для кілера

*Дзяўчына наняла двух хлопцаў, каб яны правучылі саперніцу, але не чапалі маладога чалавека. Найміты «перастараліся» і забілі абодвух. Пра гэта паведамляе прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкама.*

Трупы мужчыны і жанчыны са мноствам нажавых раненняў знайшлі 20 снежня ў адной з кватэр па вуліцы Алібегава ў Мінску. Па целе мужчыны было нанесена каля 50 удараў нажом, па целе жанчыны – больш за 30.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў міліцыя ўстанавіла, што да здзяйснення злачынства датычны двое маладых людзей, якіх наняла за 5 мільёнаў беларускіх рублёў былая блізкая сяброўка маладога чалавека.

Яна хацела адпомсціць новай дзяўчыне свайго былога каханка, але прасіла не забіваць саперніцу, а «адправіць» яе ў бальніцу тыдні на два, каб у гэты час паспрабаваць наладзіць адносіны з маладым чалавекам.

Усе падазроныя затрыманы. За забойства ім пагражае пазбаўленне волі да 25 гадоў, пажыццёвае зняволенне або смяротнае пакаранне.

РЕГИСТРАТУРА

# И распределения не надо...



*Кажется, власти придумали, как 5 лет после окончания медуниверситета удерживать на местах молодых врачей, не увеличивая срок обязательной отработки по распределению.*

На днях был опубликован указ А.Лукашенко №475 от 26 ноября 2015 года, который внес изменения в ранее изданные указы главы государства. С 1 июня 2016 года в частных медицинских центрах смогут работать только врачи первой и высшей категорий. Требование касается и младшего медицинского персонала.

Руководители многих коммерческих медцентров тут же забили тревогу: что делать со специалистами, работой которых и администрация, и пациенты довольны, но у которых нет первой или высшей категории? Уволить? Представители Минздрава парировали: время на переподготовку персонала до 1 июня 2016 года есть, центры о готовящемся нововведении были проинформированы заранее, а вводится новое требование для частников для того, чтобы *«поднять качество оказания медицинских услуг, что напрямую связано с профессионализмом медицинских работников»*.

Но только ли для этого вносились изменения в ранее изданные нормативные акты? А не для того, например, чтобы у выпускников медвузов страны не то что попыток – даже мысли не было, отработав два года по распределению, искать работу в частных центрах? Ведь теперь, согласно новому президентскому указу, у молодых специалистов такого права не будет априори. Потому что для того, чтобы получить первую квалификационную категорию, врач обязан как минимум 5 лет отработать по специальности, а высшую – 8 лет. То есть теперь из госполиклиники или больницы в частную структуру молодой доктор сможет уйти не ранее, чем через 5 лет после окончания вуза. А это именно тот срок обязательной отработки для выпускников-медиков, который последние годы так активно обсуждался чиновниками от здравоохранения, назывался одним из наиболее эффективных в решении проблемы кадрового дефицита в госполиклиниках, но который вводить не решались...

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПОСТФАКТУМ

# Нетрадиционные отношения

*Если Александр Лукашенко ехал в Москву за новым кредитом, то цель не достигнута. Если Владимир Путин хотел на встрече с руководителем Беларуси «додавить» Лукашенко на размещение авиабазы, то почему он об этом даже не заговорил? Что обсуждали главы двух государств и почему не подписали никаких конкретных документов?*

*Главный редактор портала «Белрынок» **Ирина КРЫЛОВИЧ** считает, что многие аналитики ошиблись, утверждая, что Лукашенко ездил к Путину за деньгами. По ее мнению, Беларусь просит от России не кредитов, а доступа на рынок сбыта нашей продукции.*



(С зарубежной прессы)

## Не произвести, а продать

Встреча в Москве, информации о которой было не так уж много, показала, что традиции в белорусско-российских отношениях действительно начинают меняться. И поэтому большинство озвученных прогнозов о том, что Лукашенко едет в Кремль за деньгами, не оправдались.

На мой взгляд, Александр Лукашенко ехал в Москву не за деньгами. Усиленно поработав в последнее время на ниве нового потепления с Западом, Лукашенко сегодня уже может найти деньги для Беларуси по другую сторону границы. И хотя МВФ пока еще не принял окончательного решения по кредиту, судя по всему, «понимание» достигнуто. Пусть дадут и немного, но лиха беда начало. Да и стагнирующей экономике большие деньги не нужны – перспективы бурного роста экспорта в ближайшие пару лет практически отсутствуют, так зачем накачивать экономику деньгами, если выпущенная продукция в итоге ляжет на склад? Поэтому сегодня главная задача – это расплатиться с текущими долгами, а вовсе не вывести экономику на бурный рост.

Потому что, давая деньги, Запад не может дать нам достаточный для последующей оплаты долга рынок сбыта. Рынок сбыта у нас был, есть и будет в ближайшем обозримом будущем – в России. А там – в тех секторах, где у нас были хорошие конкурентные позиции (в машиностроении, например), – отсутствие спроса и, скорее всего, надолго. Там же, где мы сейчас могли бы наращивать сбыт (в производстве пищевой промышленности), наметился рост конкуренции со стороны местных производителей, в пользу которых российские власти закрыли рынок от импортных товаров с помощью различных политических эмбарго. И если сегодня мы беспокоимся, как продать свои товары на российском рынке, то уже завтра можем столкнуться с наплывом российских товаров на своих полках.

## Кредитная история

При этом именно России мы должны. Должны, если и не катастрофически много, то постоянно. В прошлые годы мы бы, конечно, просто взяли у них еще кредит, чтобы на эти деньги продавать им же, но сегодня они товар не берут, а кредиты все чаще дают нам в российских рублях. И рублей этих они нам могут дать на самом деле довольно много – они их просто могут напечатать, даже если их собственная экономическая ситуация будет ухудшаться. Но российский рубль девальвируется, при этом по старым долгам мы платим в долларах.

Наверное, можно договориться, чтобы и по прежним российским кредитам платить в рублях, но это уже фактически реструктуризация долга. А все российские кредиты завязаны друг на друге, и при просрочке платежа по одному кредиту Россия нам может выставить одномоментно весь совокупный долг к оплате. Поэтому завязываться с реструктуризацией не хочется – можно попасть в ловушку на переговорах.

Поведение белорусского Минфина в последнее время демонстрирует явную осторожность в привлечении кредитов от России. Беларусь даже снизила запрос по кредиту от Евразийского стабилизационного фонда (ЕСФР) с 3 млрд до 2 млрд долларов. Тут может быть несколько причин. Во-первых, наверняка есть уверенность в получении кредита от МВФ, во-вторых, возможно, у самого фонда проблемы с деньгами, ну а в-третьих, основным донором фонда является Россия. Наша квота в фонде невелика, и прошлый кредит – тогда еще Антикризисного фонда ЕврАзЭС – частично был нам выделен за счет российской квоты, так как нашей нам для кредита на 3 млрд долларов не хватало. Возможно, сейчас Беларусь не хочет завязываться на российскую квоту, чтобы избежать привязки к другим российским кредитам.

## Рублевый рост

С учетом всех этих реалий заявления, сделанные президентами России и Беларуси по итогам встречи во время выхода к прессе, лишь на первый взгляд выглядят традиционными и малозначительными. Подчеркнув, что торгово-экономическому сотрудничеству на переговорах было уделено «особое внимание», Путин традиционно обратился к показателям товарооборота, но при этом привел данные в рублях. «В этом году из-за резких колебаний на валютных рынках товарооборот в долларовом исчислении снизился, а в рублевом, наоборот, возрос на 20,6%, до 1,3 триллиона рублей», – сказал он.

Домашняя заготовка о росте в рублях могла показаться неуместной на фоне очередного падения российского рубля в день встречи, однако Путин невозмутимо пояснил, что этому «росту» способствовала торговля между торговыми партнерами в национальных валютах.

Таким образом, если разговор о негативном влиянии на белорусскую экономику колебаний курса российского рубля и был, то на все претензии белорусский президент от российского получил достаточно конкретный ответ: торгуйте в российских рублях. И нечего требовать от белорусских экспортеров заключать в России контракты в американских долларах, как это было год назад, когда надежды на доходы от российского эмбарго были похоронены девальвацией российского рубля.

Также Путин обратил внимание на то, что в Беларуси, по данным Евразийского банка развития, уже накоплено 6,3 миллиарда долларов российских капиталовложений. «Это 40% всех наших инвестиций в страны СНГ. Создано более 3,5 тысячи совместных предприятий во всех отраслях экономики», – также отметил он. То есть Россия у нас уже во всех отраслях, что нам еще нужно? Теперь мы можем привлекать через них инвестиции: можно – российские, можно – западные, только спасибо скажут, им же напрямую не дают.

Упомянул Путин и «важнейший инвестиционный проект» – Белорусскую АЭС, отметив, что строительство ведется в строгом соответствии с графиком. А это значит, что кредит России на ее строительство нам тоже надо будет выплачивать в соответствии с графиком, то есть вместе с пуском станции.

Станция строится полностью за российские деньги, начало выплат по кредиту совпадет со следующей президентской кампанией в Беларуси, так что тут есть над чем подумать. Чтобы были деньга на уплату долга, например, можно будет организовать экспорт электроэнергии в Европу, с которой сегодня у Беларуси потепление, а с Россией – похолодание, и российскую электроэнергию в Европе точно покупать не будут.

## Вы чьих будете?

Экономическая часть в исполнении Александра Лукашенко была более традиционной, хотя замечалось, что белорусский президент всячески избегает даже намеков на критику России.

Упомянув о том, что *«мы знаем о программе импортозамещения, которая реализуется в Российской Федерации»*, Лукашенко *«кстати»* сообщил, что *«мы уже вторую программу по импортозамещению в Беларуси приняли»*, *«мы поддерживаем эту программу»* и *«вы, с нашей точки зрения, в абсолютно правильном направлении движетесь, и результат будет буквально в обозримом будущем»*.

А дальше Лукашенко сообщил, что попросил *«Владимира Владимировича и членов правительства России в присутствии наших членов правительства, что эта программа ни в коем случае не должна ухудшать возможность и условия действия наших совместных предприятий, тем более в ситуации поставок белорусских товаров и услуг, чтобы наши товары и услуги не считались иностранными, а были практически как российские, тем более что они закреплены как двусторонними соглашениями, так и нормами ЕАЭС»*.

Эта искренняя просьба (именно просьба, а не требование выполнить закрепленные соглашениями нормы) была дополнена заверениями в готовности «всемерно содействовать в удовлетворении потребностей российского рынка по тем группам товаров, которые мы можем производить конкурентно по цене и качеству», а также привычными тезисами о глубокой кооперации наших производств, но без привычного давления «мы даем работу в России 10 миллионам рабочих».

*«Здесь говорили о локализации, много говорят. Допустим, наши гиганты – МАЗ, МТЗ и так далее – уже на 55–60% локализованы в Беларуси. То есть мы покупаем комплектующие, сырье и прочее и производим на финишном производстве готовый товар*, – «локализовал» на российском рынке продукцию наших гигантов белорусский президент и выписал ей сертификат происхождения товара: – *Так чей он? Он белорусско-российский»*.

Действительно, чей он, этот белорусско-российский товар? Наверное, это будет зависеть от того, кто за него заплатит. Если продавать в Россию, то будет российский, а если на Запад и в другие страны, на чьи товары Россия наложила эмбарго, – то белорусский.

Вот так традиционная белорусская «многовекторность» в сегодняшних геополитических условиях принимает новые нетрадиционные товарно-денежные формы. Как бы только не пришлось потом расплачиваться российским рублем. В качестве единственного платежного средства на белорусско-российской территории.

**Ирина КРЫЛОВИЧ**

ПОЛИТКУХНЯ

# Что у казака на уме, то и на языке



**Беларускія казакі навучаюць школьнікаў валоданню баявой зброяй. Фота зроблена на Гродзеншчыне.**

В ходе президентской избирательной кампании **Николай Улахович** всячески пытался дистанцироваться от идеи «русского мира» и открещивался от характеристики «пророссийский кандидат», однако нет ничего тайного, что не становится явным.

Верховный атаман организации «Белорусское казачество», экс-кандидат в президенты Беларуси посетил первый Большой круг Общероссийской общественной организации «Союз казаков-воинов России и зарубежья». Это был не просто сбор «православных ряженых». Это уже был съезд тех, кто «участвовал в возвращении России Крыма», кто воюет на «передовой Новороссии» (они это так называют) – казаки бригады «Призрак», батальона «Сомали» и других реально воюющих казачьих подразделений. Но представитель белорусского казачества среди них не затерялся. Он открыто заговорил о необходимости финансирования Россией политических сил в нашей стране.

*– Вы увидели, что мы, казаки белорусские и украинские казаки, попали в борьбу между Евросоюзом и Россией,* – заявил Николай Улахович. *– В политическую борьбу. Раньше я говорил, что казаки – они должны быть вне политики. Это было в какой-то степени нечестно с моей стороны. Мы всегда были в политике.*

*Я наблюдал, как во время предвыборной кампании в Белоруссии мои соперники деньги просили у ОБСЕ. Огромные суммы. И они их получали. Они еще не бандеровцы, а молодофронтовцы, разные там бэнэфовцы... И только мы, патриоты, участвовали на одном голом патриотизме. Думаю, этот вопрос надо пересмотреть. Если США на политику, на поддержку оппозиционных сил такие средства выделяет, то неужели Россия не найдет эти средства, чтобы хотя бы наш русский мир привести в порядок? Сегодня ни одна общественная организация, ни одно общественное объединение без материальной поддержки жить не будет. Поэтому надо или вообще убрать и всех бросить в омут, или заниматься этим серьезно.*

Цитата взята из сообщения Казачьего информационно-аналитического центра.

Что в ней важно? Впервые нашелся белорусский политик, который открыто заговорил о том, что Россия должна поддержать финансами адептов идеи «русского мира» в нашей стране.

Напомним, что Николай Улахович возглавляет не только организацию «Белорусское казачество», одновременно он является лидером Белорусской патриотической партии. И вот теперь возникает вопрос: патриотом какой страны является и сам Улахович, и члены его партии, и наши казаки – Беларуси или России?.. Из последних высказываний можно сделать вывод, что все-таки России.

**Игорь МОРОЗОВ.**

АДУСЮЛЬ

# Беларускія біятланісткі атруціліся

*Масавымі атручэннямі адзначыўся трэці этап Кубка свету па біятлоне, які праходзіць у славенскай Паклюцы. Як піша championat.com, ахвярамі невядомага вірусу стала практычна ўся беларуская зборная.*

Напярэдадні гонкі пераследу беларуская біятланістка **Надзея Пісарава** з'ехала ў лякарню ў Любляну. У дзень старту туды ж адправілася і **Дар'я Юркевіч.** Паводле папярэдніх звестак, у яе дыягнаставалі разрыў слізістай абалонкі страўніка. Лёгкую нямогласць адчула таксама і **Надзея Скардзіна.**

Паведамляецца, што ахвярамі віруснай эпідэміі сталі спартсмены зборных Беларусі, Аўстрыі і Канады, якія пражываюць у адным гатэлі. Прычым зборная Аўстрыі захварэла практычна поўным складам.

# Алергічны цэмент

*З латвійскіх крам адклікаюць беларускі цэмент.*

Прадукцыя ААТ «Красносельскбудматэрыялы» трапіла ў справаздачы еўрапейскай сістэмы хуткага абмену інфармацыяй аб небяспечных таварах RAPEX. Гаворка, у прыватнасці, ідзе пра 25-кілаграмовыя мяшкі з партыі ад 20 жніўня 2015 года. Як піша DELFI, у дадзенай партыі выяўлена высокае ўтрыманне хрому, у выніку чаго цэмент можа выклікаць у людзей алергічныя рэакцыі.

# У Магілёве "замініравалі" аблвыканкам

*Ананімнае паведамленне аб закладзенай выбуховай прыладзе паступіла вечарам у нядзелю.*

На месца выехалі сілавікі, сапёры, лекары, кінолагі. З будынка эвакуіравалі траіх чалавек. Рух транспарту на прылеглых вуліцах перакрылі. Але выбухоўку не знайшлі. А вось хулігана вылічылі хутка. Ім аказаўся 34-гадовы магілёвец, супрацоўнік аднаго з прыватных прадпрыемстваў, раней не судзімы.

ЧУЛІ?

# Дзеці – гэта цяжкая работа

Хатнім гаспадыням, якія выхоўваюць дзяцей і нідзе не працуюць, дадуць своеасаблівую «адтэрміноўку» па выплаце падатку на дармаедства. Ва ўрадзе прапануюць не спаганяць збор з маці да дасягнення іх дзецьмі 10 гадоў.

Пра гэта распавёў міністр па падатках і зборах **Сяргей Налівайка.**

Нагадаем, што цяпер ад выплаты падатку на дармаедства вызвалены шматдзетныя маці і тыя, хто выхоўвае дзяцей ва ўзросце да 7 гадоў, а таксама дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў. Аднак зараз ёсць меркаванне, што жанчын, якія выхоўваюць дзяцей, трэба вызваліць ад збору за ўтрыманства на больш працяглы перыяд.

ИМЕЙТЕ В ВИДУ

# Евро к еврику...

В Беларуси в 5 раз повышена ставка таможенного сбора за совершение таможенных операций в отношении транспортных средств для личного пользования.

Согласно указу №496, плата за растаможку личного авто составит 50 евро вместо нынешних 10 евро. Указ вступает в силу с сегодняшнего дня, то есть с 22 декабря 2015 года.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



Тамара СЯРГЕЙ, праваабаронца:

# «Адказ пракурора здзівіў...»

"Народная Воля" працягвае сачыць за тым, як развіваецца сітуацыя з затрыманнем у дзень інаўгурацыі А.Лукашэнкі на чыгуначным вакзале Мінска праваабаронцы Тамары Сяргей і абвінавачваннем яе ў рабаванні 300 доларaў у нейкай грамадзянкі Тарасавай. Праваабаронца сцвярджала, што гэта правакацыя, і дамагалася, каб ёй прадаставілі вынікі міліцэйскай праверкі па факце яе затрымання і абвінавачвання. Але ні ў вызначаны законам тэрмін – 16 лістапада, ні пазней адказу з аддзела ўнутраных спраў на транспарце г.Мінска яна не атрымала.

Ці не азначае гэта, што справа Сяргей знікла і праваабаронца мела рацыю, калі ў інтэрв'ю нашай газеце заяўляла, што 6 лістапада яе проста хацелі затрымаць, каб яна і актывісты грамадскай ініцыятывы "Супраць беззаконнасці ў пракуратуры і судах" не трапілі да Лукашэнкі на інаўгурацыю? "*Хацелі псіхалагічна націснуць, зварганілі пратакол, а паколькі было відавочна, што абвінавачванне ліпавае, пратаколу ходу не далі*", – сцвярджала Сяргей.

– Вынікаў праверкі няма дагэтуль, – кажа праваабаронца. – Але прыйшлі адказы на мае скаргі аб незаконным затрыманні, якія я пісала на імя міністра ўнутраных спраў **Шуневіча** і генпракурора **Канюка**. Міністр перанакіраваў маю скаргу на разгляд у ГУУС Мінгарвыканкама, і ў выніку яна апынулася ў Мінскім аддзеле ўнутраных спраў на транспарце. Двойчы я спрабавала сустрэцца з начальнікам аддзела **Аляксандрам Мінько**, але, прайшоўшы асабісты надгляд і надгляд рэчаў, не была дапушчана ў ягоны кабінет. Я адмаўлялася здаць на адкрытае захоўванне (пакласці ў файлік) мабільны тэлефон. Лічу, што такія рэчы павінны захоўвацца ў камерах захоўвання і зачыняцца на ключ, як гэта, напрыклад, зроблена ў Адміністрацыі прэзідэнта… Пазней я ўсё ж такі атрымала ад Мінько пісьмовы адказ на маю скаргу. Вельмі коратка ён паведаміў, што скарга разгледжана і парушэнняў Крымінальна-працэсуальнага заканадаўства пры маім затрыманні не ўстаноўлена. Усё! Ніякіх тлумачэнняў!

Але ў гэты ж час я атрымала адказ ад мінскага транспартнага пракурора **Мікалая Кротава**. Аказалася, што маю скаргу, накіраваную генпракурору Канюку, перанакіравалі на разгляд менавіта яму.

Адказ Кротава мяне здзівіў. Ён паведаміў, што 10 лістапада 2015 года пракуратура адмяніла пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні супраць мяне крымінальнай справы. Матэрыялы накіраваны ў Мінскі аддзел унутраных спраў на транспарце, будзе праведзена праверка маіх довадаў аб загадзя лжывым даносе.

**– Ці дае гэта надзею, што ўдасца даказаць, што вас абылгалі?**

– Не ведаю. Калі шчыра, я не веру, што хтосьці будзе шукаць Тарасаву і разбірацца ў гэтай справе. Я ўпэўнена, што маё затрыманне праводзілася па ўказцы спецслужбаў і ніхто цяпер супрацоўнікам міліцыі не дазволіць прыцягваць грамадзянку Тарасаву да якой-небудзь адказнасці. Я думаю, што яе схаваюць і ніхто не зможа яе знайсці. Таму што прыйдзецца прывесці Тарасаву ў суд – а там яна можа расказаць праўду, у судзе будзе складана мармытаць завучаныя фразы. То бок я не выключаю, што, магчыма, будзе імітацыя дзейнасці, але вынікаў яна ніякіх не дасць. Гэта маё меркаванне.

* * *

Дзіўная краіна! Нават Тамара Сяргей, якая з'ела зубы на юрыспрудэнцыі, не можа абараніць саму сябе…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЭГІЁН

# «Хрущевка» за... 22 тысячи долларов



Цены на квартиры в Витебске нынче упали на 35 процентов. В сравнении с другими городами Беларуси в этом областном центре отмечено максимальное падение стоимости жилья. Как сообщили «Народной Воле» в агентстве недвижимости ООО «Пакодан-Витебск», на это есть несколько причин.

– *Нужно отметить, что понизилась платежеспособность населения,* – объясняет специалист по продажам Александр Монаков. – *Кроме этого, на резкое падение цен повлиял и первичный рынок – новостройки стали более доступными и привлекательными по срокам строительства.*

Цена на «хрущевку» в Витебске сегодня составляет 22–29 тысяч долларов, хотя раньше за это же жилье просили 35–37 тысяч. Квартиры в домах с новой планировкой стоят 29–45 тысяч долларов. Такая разбежка в цене объясняется общим состоянием жилья, ремонтом, районом и другими факторами. Новостройка в районе Билево обойдется в 28–35 тысяч долларов. Всего несколько лет назад новая однокомнатная квартира в этой части Витебска стоила 45–47 тысяч долларов. Несмотря на такое снижение цен, очередей в агентствах недвижимости не наблюдается.

Отсутствие интереса со стороны населения объясняется просто – у людей нет средств на покупку жилья даже по новым ценам. По словам Александра Монакова, при средней зарплате в Витебске 3–3,5 миллиона рублей приобрести самую дешевую «однушку» практически невозможно.

– *Пока не видно перспектив появления или развития крупных предприятий в регионе,* – говорит витебский специалист по недвижимости. – *Где людям работать, чтобы купить квартиру? Местные предприниматели также говорят о низкой платежеспособности населения. Например, торговый центр «Континент» практически пустует. Одним словом, приобрести сегодня жилье может себе позволить не каждый.*

Если раньше многие белорусы зарабатывали деньги в России и вкладывали их в недвижимость у себя на родине, то сегодня это единичные сделки. Из-за экономического кризиса на заработки в соседнюю страну уезжает двое из десяти белорусов. Из-за низких доходов люди просто проедают свои сбережения. К слову, россияне уже не влияют на белорусский рынок недвижимости. Если до 2008 года многие сделки приходились на граждан Российской Федерации, то сегодня их практически нет.

– *За этот год квартиры купили единицы пенсионеров, которые раньше переезжали в Беларусь,* – говорит Александр Монаков. – *Люди в возрасте выбирали нашу страну с точки зрения социальной стабильности. Также россияне перестали приобретать недвижимость в Беларуси для бизнеса.*

Еще один фактор, который повлиял на резкое снижение цен, – коммерческая недвижимость. Люди покупали квартиры на первых этажах и сдавали в аренду. Но из-за снижения стоимости аренды спрос на покупку такого жилья упал.

## Неподъемные кредиты

Даже те, кто сегодня может купить квартиру, не спешат отдавать деньги за первый попавшийся вариант. Нестабильность на рынке жилья заставляет людей затаиться в ожидании повторного снижения цен.

– *Покупатель мониторит рынок и не понимает, что происходит,* – объясняет специалист «Пакодан-Витебск». – *Человек, например, находит «двушку» за 35 тысяч в долларовом эквиваленте, а через некоторое время появляется вариант за 29 тысяч долларов. И покупатель убеждается: разумнее подождать и посмотреть, что будет дальше. Идет тенденция к снижению, которая приостанавливает активность рынка.*

Кредиты на недвижимость, которыми ранее пользовались белорусы, сегодня не популярны. Времена, когда банки выдавали кредиты под 23 процента годовых, прошли. Сейчас ставка рефинансирования составляет 33–34 процента. Желающих заключить договор с банком на таких условиях немного.

– *Кредиты сейчас выдаются очень быстро,* – говорит Александр Монаков. – *Если раньше нужно было ждать 3 недели, то сейчас получить деньги можно за 2–3 дня. Но уже около года я не видел, чтобы кто-то финансировался за*



*счет банка. Мы просчитывали: для кредита в 15 тысяч долларов нужно зарабатывать около 50 миллионов.*

Как отмечает витебский специалист, встретить сегодня «чистого» покупателя, то есть такого, у которого есть полная сумма на покупку, трудно. Как правило, 8 из 10 желающих приобрести жилье обязательно что-то продают. Люди, например, получают деньги за старую жилплощадь, добавляют сбережения и приобретают квартиру в новостройке.

Из-за ситуации, сложившейся на рынке недвижимости, многие владельцы квартир не спешат выставлять свое имущество на продажу. Как говорится, ждут лучших времен. Сколько продлится такая ситуация и как поведут себя цены, специалисты прогнозировать не берутся.

– *Три месяца назад люди покупали квартиру в новостройке за 46 тысяч в долларовом эквиваленте,* – рассказывает агент по недвижимости в Витебске. – *А сейчас это жилье даже за 35 тысяч долларов продать не могут. На рынке происходит какое-то непонятное движение. Поэтому люди и придерживают деньги: мол, а вдруг через некоторое время можно будет за 15 тысяч долларов приобрести тот вариант, который сегодня нельзя купить за 30 тысяч долларов?*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
*Витебск.*

ЛІЧБА ДНЯ

## З Беларусі штогод нелегальна выводзіцца каля 8,8 мільярда долараў ЗША

Такая лічба прыводзіцца ў даследаванні Global Financial Integrity «Незаконны вываз капіталу з краін, якія развіваюцца».

Па гэтым паказчыку мы займаем 21-е месца ў свеце сярод 149 краін, якія развіваюцца.

Global Financial Integrity – амерыканская даследчая арганізацыя, якая аналізуе незаконныя фінансавыя патокі і выступае за прыняцце нацыянальных і міжнародных мер, якія закліканы іх скараціць. Прычым методыка разліку ўлічвае толькі нелегальна выведзеныя з краіны сродкі, аперацыі, не адлюстраваныя ў дакументах.

Усяго, паводле ацэнак GFI, з Беларусі ў 2004–2013 гг. было выведзена больш за 88 мільярдаў долараў. Прычым амаль 42% гэтай сумы – у апошнія 3 гады (штогод у сярэднім па 12 мільярдаў долараў). Самым «ураджайным» у гэтым сэнсе эксперты называюць 2008 год, калі з краіны за мяжу «выцекла» больш за 13 мільярдаў долараў.

У GFI мяркуюць, што 83,4% нелегальнага адтоку капіталу ажыццяўляецца шляхам скажэння фактычнага кошту экспарту і імпарту пры мытным дэклараванні.

Калі разлікі GFI хоць бы збольшага дакладныя, то наша дзяржава, спрабуючы павысіць падаткі, тарыфы, адмяняючы розныя сацыяльныя выплаты, на самай справе не там шукае грошы. Але, з другога боку, відавочна і тое, што банкаўскія і мытныя аперацыі без сур'ёзнага прыкрыцця ў самых высокіх уладных кабінетах здзейсніць проста немагчыма.

ПАЛІТКУХНЯ

# Някляеў, Статкевіч і Шушкевіч ствараюць аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Кангрэса дэмакратычных сіл

Уладзімір Някляеў, Мікалай Статкевіч і Станіслаў Шушкевіч аб'явілі аб стварэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі.

У сумеснай заяве палітыкі падтрымалі зварот вядомых прадстаўнікоў культуры і грамадскіх дзеячаў да лідараў і актывістаў беларускай апазіцыі з заклікам кансалідавацца і правесці кангрэс дэмакратычных сіл для выпрацоўкі сумеснага плана дзеянняў.

Някляеў, Статкевіч і Шушкевіч лічаць сімвалічным, што такі зварот з'явіўся напярэдадні 5-й гадавіны брутальных падзей 19 снежня 2010 года. Іх можна было б пазбегнуць, калі б апазіцыя была кансалідавана, правяла Кангрэс, прыняла адзіную праграму і вылучыла адзінага кандыдата ў прэзідэнты, упэўнены аўтары заявы.

*«Выбары 2015 года таксама маглі б быць іншымі, калі б апазіцыя дамовілася аб адзіным кандыдаце, выпрацавала сумесны план дзеянняў. Менавіта адсутнасць адзінства прывяла да трагедыі на «выбарах» 2010 года і да фарсу ў палітычнай кампаніі пад назвай «выбары» ў 2015-м»*, – гаворыцца ў заяве.

На думку Някляева, Статкевіча і Шушкевіча, «*далей у гэты бок ісці няма куды – хіба толькі на адкрытую службу рэжыму*», да чаго асобныя апазіцыйныя структуры, лічаць палітыкі, «*ужо нібыта гатовыя – адразу пасля прэзідэнцкіх «выбараў» яны заявілі пра ўдзел у «выбарах» парламенцкіх*». І гэта пры тым, што пры дзейным выбарчым заканадаўстве правядзенне свабодных дэмакратычных выбараў немагчымае, падкрэсліваецца ў заяве. "*Значыць, апазіцыя згодна не на выбары, а на прызначэнне ў "палатку". І ўнутры апазіцыі ўжо пачалася за гэта барацьба*», – лічаць тры палітыкі.

Някляеў, Статкевіч і Шушкевіч засцерагаюць дэмсілы ад гэтага шляху. «*Шлях да дэмакратычнай, еўрапейскай Беларусі – гэта шлях праз свабодныя выбары, якіх неабходна дабіцца, аб'яднаўшыся* «, – гаворыцца ў заяве.

Мікалай Статкевіч лічыць, што Кангрэс неабходна правесці ўжо ў лютым-сакавіку.

К СВЕДЕНИЮ

## Что изменится в налоговом законодательстве с 1 января 2016 года...

**Для населения:**

– увеличатся в два раза (с 0,1 до 0,2 процента) ставки налога на недвижимость со второй и последующих квартир в собственности;

– возрастет подоходный налог с выигрышей в азартные игры в размере 4 процентов;

– будет включен в цену на электричество и газ налог на добавленную стоимость (его ставка составляет 20 процентов).

**Для малого бизнеса:**

– предельный размер ставки курортного сбора вырастет с 3 до 5 процентов;

– ремесленники вместо одной базовой величины в год будут платить четыре;

– владельцы агроусадеб будут платить 1 базовую величину не раз в год, а каждый месяц, когда осуществляется деятельность;

– планируется ввести запрет на применение упрощенной системы налогообложения для организаций и ИП, которые оказывают услуги интернет-площадок, а также осуществляют розничную торговлю через интернет;

– с 13,7 до 1,5 миллиарда рублей намечается снизить размер предельной валовой выручки, при которой ИП не сможет использовать упрощенную систему налогообложения.

**PS: Депутаты Палаты представителей проголосовали за эти и другие изменения в налоговой политике.**

КАШАЛЁК

## Базавая велічыня падрасце

*З 1 студзеня 2016 года памер базавай велічыні са 180 тысяч вырасце да 210 тысяч. Такое рашэнне прыняў Саўмін.*

Нагадаем, што базавая велічыня ўжываецца для вылічэння цэлага шэрагу паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.



TUT.by

НОВЫЕ ИМЕНА

Никита ЛАВРЕЦКИЙ:

# «Весь бюджет моего фильма – заказ из «Евроопта»

*В этом году одним из победителей кинофестиваля "Лістапад" стал 21-летний математик Никита Лаврецкий. "Народная Воля" расспросила Никиту о том, почему он снимает в картинах своих друзей и не мешает ли ему отсутствие специального образования?*

**– Никита, говорят, что вы потратили на фильм "Белорусский психопат", с которым в этом году победили на "Лістападзе", 440 тысяч. Речь идет о долларах?**

– О белорусских рублях.

**– Но ведь это невозможно! Надо же платить актерам, оператору.**

– В своих фильмах я снимаю не профессиональных актеров, а своих друзей, знакомых, которые готовы работать бесплатно. Даже оператору не пришлось платить. На съемки приехала знакомая девушка с камерой *(критики считают, что фильмы Лаврецкого относятся к жанру мамблкор, одна из его особенностей – участие актеров-любителей)*. Для всей съемочной группы я заказал машину с едой из «Евроопта». Этот заказ на 440 тысяч белорусских рублей и составил весь бюджет моего фильма. Об этих деньгах не жалею. Я накормил не каких-то левых людей, а своих друзей.

Хотя, если честно, была еще одна причина для таких трат. Моих друзей надо было задобрить *(смеется)*. В «Белорусском психопате» есть сцена, где три девушки должны перелезть через забор, окружающий дачу. Когда я писал сценарий, думал, что у них это получится. В фильме есть кадр, когда одна девушка совершает неудачную попытку и говорит: «Я не смогу перелезть». В реальности она говорила это мне, режиссеру. Потом пробовала еще пару раз. Расплакалась и убежала. Сразу после этой сцены хотела уехать на машине из этого «ада».

**– А мне казалось, что друзей снимать легко. Никаких райдеров, заоблачных контрактов…**

– Да, но бесплатная работа – это своеобразная эксплуатация людей. После того, как съемки "Белорусского психопата" закончились, отзывы были разные. Один из друзей сказал: «Никита, я думал, это будут веселые выходные, с кем-то познакомлюсь, а мы фигней занимались, устали все, снимали до трех часов ночи. Больше никогда не буду сниматься» *(смеется)*.

**– Вам не мешает отсутствие специального образования?**

– Мне кажется, оно совершенно не обязательно. Что может быть лучше кинообразования, чем просмотр хороших фильмов? Еще в 1970-е Фрэнсис Коппола, создатель легендарного «Крестного отца», говорил, что должно наступить светлое будущее, когда кино избавится от людей, получивших специальное образование. Да и сейчас в Америке каждые несколько месяцев появляются статьи, авторы которых утверждают: зачем поступать в киношколу и тратить несколько десятков тысяч долларов, если за эти деньги можно снять полноценный фильм? Я уверен, что кинорежиссером может стать человек, получивший любое образование. Техника ведь простая: берешь камеру и начинаешь снимать.

Свои первые фильмы я пробовал снимать еще в детстве. При том что родители никак не связаны с кино, они инженеры. Но серьезно стал снимать короткометражки на втором курсе университета, когда учился на факультете прикладной математики и информатики. С того времени снял дюжину более-менее серьезных короткометражек и один полнометражный фильм.




**Досье «Народной Воли»**

*Никита Лаврецкий родился в 1994 году в Минске. Окончил минскую гимназию №42, лицей БГУ (последний – с золотой медалью), факультет прикладной математики и информатики БГУ. Работает учителем математики в лицее БГУ. В 2015 году фильм Лаврецкого «День рождения в Минске» победил на фестивале короткометражного кино Cinema Perpetuum Mobile (первое место в номинации «Лепшы беларускі фільм»). В этом же году фильм «Белорусский психопат» был признан лучшим игровым фильмом (в национальном конкурсе) на XXII Международном кинофестивале «Лістапад-2015».*

**– Полученная специальность, выходит, совсем не пригодилась?**

– Чтобы спланировать съемки, обзвонить и собрать людей, требуются организационные, логические умения. А логика – это основа математики. Да и гениальность – синоним того, что все сделано очень логично. Хотя в идеале нужно балансировать между моментами, когда надо снимать логично и когда надо довериться интуиции. Но все-таки без математики никак. Ведь преподавание этого предмета – это моя основная работа, за которую платят деньги, пусть и небольшие.

**– Вы верите, что сможете зарабатывать на своих фильмах?**

– Конечно, смогу! Но я еще не достиг максимума по шкале режиссерских умений. Если бы у меня был мозг Мартина Скорсезе *(легендарный американский режиссер, снявший, среди прочего, «Банды Нью-Йорка» и «Авиатор»)*, это было бы видно сразу. Поэтому если я сниму крутой фильм, это сразу будет заметно, и его возьмут на международные фестивали. Пока это не всем очевидно. Например, когда оператор «Белорусского психопата» узнала, что я хочу отправить заявку на участие в «Лістападзе», она засмеялась. А фильм победил.

**– Ваши картины посвящены жизни ваших ровесников. Нет желания сделать кино о ком-то другом?**

– Если честно, нет. Все-таки я лучше всего знаю именно свое поколение. Кстати, если бы старики снимали фильмы о стариках, это было бы нормально. Юмор в том, что чем старше становится режиссер, тем моложе становятся его герои. Например, последние фильмы француза Эрика Ромера, который умер в 89-летнем возрасте, посвящены 20-летним. И этот пример далеко не единственный…

**Денис МАРТИНОВИЧ.**

ЗА КРАТАМІ

## Андрэй Бандарэнка мяняе турму



*Зняволенага праваабаронцу Андрэя Бандарэнку пераводзяць са шклоўскай калоніі ў магілёўскую турму.*

Такое рашэнне было прынята на выязным судовым пасяджэнні ў шклоўскай папраўчай калоніі №17. Прычынай пераводу называліся «шматлікія парушэнні» рэжыму. Пра гэта агенцтву БелаПАН паведаміла дырэктар прыватнай інфармацыйна-кансультацыйнай установы «Рэгіён 119» Алена Красоўская-Каспяровіч.

Яна дадала, што для Бандарэнкі стане больш жорсткім рэжым, бо ў калоніі ёсць пэўная свабода перамяшчэння. У турме ён будзе сядзець у камеры і мець толькі дзве гадзіны штодзённай прагулкі.

Як паведамлялася раней, у 2014 годзе Бандарэнку прызналі вінаватым у хуліганстве, злосным хуліганстве і асабліва злосным хуліганстве. Ён быў асуджаны на чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пазней па амністыі тэрмін быў скарочаны да трох гадоў. У Бандарэнкі ўзніклі канфлікты з вязнямі ў папраўчай калоніі №2 Бабруйска, куды ён спярша трапіў. Таму зняволенага праваабаронцу перавялі ў Шклоў. Аднак і там яму прысвоілі так званы «нізкі статус». Бандарэнка неаднаразова прасіў адміністрацыю калоніі змясціць яго ў бяспечнае месца. Як правіла, гэта быў штрафны ізалятар.

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# За что же со мной так поступили?

Уважаемый главный редактор!

Прошу опубликовать мое письмо не с целью восстановления меня на работе, а для нравственного урока молодым бюрократам.

Я родился в семье, в которой выросло шестеро сыновей. С ранних лет мы познали тяжелый труд, голод и холод.

В 1972 году я получил удостоверение водителя третьего класса и до призыва в армию трудился водителем в Смолевичском райпотребсоюзе. После службы был принят на работу в автопарк №2411.

В 1982 году руководство управления ДМСиБ Мингорисполкома закрепило за мной самосвал. Семь лет я был занят на благоустройстве столицы. С 1991 года занимался обслуживанием пассажиров в Минлегавтотрансе.

На пенсию ушел в 2014 году. Однако без работы стал скучать и пошел работать водителем в организацию по механизированной уборке города. За мной закрепили МАЗ – самосвал и комбинированную дорожную машину (КДМ). Директор Петр Скребец подписал контракт на год.

В августе 2015 года меня командировали в Мядельский район для помощи ОАО «Будславское» в уборке урожая. Я на совесть работал от зари до зари, доставляя зерно от комбайнов на зерноток. Председатель правления Ж.В.Тиран тепло поблагодарил меня за самоотверженный труд.

Однако по возвращении в родную организацию меня ждал неприятный. Меня предупредили о том, что контракт со мной не будет продлен. Словно в душу плюнули.

Друзья говорят, что надо было бороться за свои права. Но, поверьте, нет никакого желания доказывать бюрократу свое право человеком зваться. Я со всей душой трудился на общее благо, а мое усердие оценили вот таким образом. Наверное, у директора немало проблем, но, как бы ни было, он в первую очередь должен видеть человека. За моими плечами 43 года трудового стажа. Казалось бы, радуйся, отдыхай… Но ведь я еще могу приносить пользу государству, могу работать. За что же со мной так поступили?

**Виктор Петрович РАЗУМОВИЧ.**

*Минск.*

СПОВЕДЗЬ

# Даруй мне, Маці-Беларусь…

Даруй мне, Маці-Беларусь,
Што і парой "перабудовы"
Не змог цябе я засланіць
Ад пошасці дзвюхмоўнай змовы.

Мне гэты грэх не замаліць,
Да скону ён са мною будзе.
І ўсё ж спадзеву цеплю я,
Што прыйдзе час – даруюць людзі.

Нам хопіць волі, каб вярнуць
Красу і годнасць роднай мовы
І вымесці з рашучым "Не!"
Парэштккі той пачварнай змовы.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ, ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

*г.Слаўгарад.*

ВСПОМНИМ!

# Накануне Чернобыльского «юбилея»…

В следующем году будут подробные рассказы и отчеты о Чернобыле. О людях и медицине, о флоре и фауне, о потерянных землях и потраченных деньгах, о судьбе ЧАЭС, о состоянии объекта «Укрытие-2», о возобновлении сельхозработ на загрязненных землях, о перспективах.

В преддверии этого печального юбилея мне хотелось бы рассказать о том, что беспокоит и волнует меня как гражданина, как инженера-строителя и бывшего средмашевца, как гомельчанина, который многократно выступал со статьями по чернобыльской тематике.

Беспокоит происходящее в Украине. Если разборки о статусе языка, переходящие в гражданскую войну, – это, на мой взгляд, внутреннее дело этой противоречивой страны, то ветры, несущие из Чернобыля «мирный атом», границ не знают. Это серьезный вопрос и для нашей страны, и для Российской Федерации, и для Европы, и для всего мира.

Попробуйте получить внятную информацию о сроках окончания работ на «Укрытии-2» (если упрощенно – это арочное сооружение, которое будет надвинуто над саркофагом).

Авария на ЧАЭС и работы по ликвидации последствий показали техническую несостоятельность великого СССР. Я еще в 1991 году писал, что саркофаг дышит на ладан.

А сегодня хотелось бы спросить: «Укрытие-2» – это действительно решение проблемы (хотя бы на 100 лет) или это хорошо продуманная идея по выманиванию и распилу валюты?

Беспокоит то, что мы стали беспечнее, потеряли осторожность. Санитарные службы работают, но мы собираем иногда грибочки и ягодки для себя и частенько не носим проверять. На улицах продолжают продавать продукты питания с земли. Откуда они?

Не пропагандируются рекомендации по профилактическому питанию. Выбор продуктов сейчас огромен. У меня предложение: разработанные Минздравом рекомендации мог бы тиражировать и распространять «Евроопт» через свою сеть. У меня сохранились такие рекомендации еще со времен БССР.

Хотелось бы получить какие-то разъяснения от Минздрава по поводу радиопротекторов, например, вокацита.

Настораживает возобновление сельхозработ в зоне. Я читаю, что все продумывается, проверяется… Но, на мой взгляд, это не статичная местность со стабильными показателями. Ветер, осадки, эрозия почвы с переносом и т.п. Гарантированно чистой продукцией, на мой взгляд, может быть только электроэнергия, передаваемая по проводам. Приведу простой расчет. Допустим, с 1 гектара мы получим 100 центнеров пшеницы и продадим ее по 400 долларов США за тонну. То есть за год получим 4000 долларов. На одном гектаре можно разместить солнечных батарей примерно на 330 кВт и получить до 330.000 кВт·час электроэнергии на сумму (0,08 долларов США х 330.000) около 26.400 долларов США (я даже не беру в расчет «зеленый» тариф) в год. А при «зеленом» тарифе эта сумма в 2–3 раза больше. Логичен вопрос: а где взять деньги на покупку батарей, на установку, на восстановление ЛЭП?

Это могут быть инвестпроекты под жестким контролем государства, с тщательными расчетами, с конкурсами, с привлечением самых передовых технологий. Мировое сообщество нам задолжало.

Чернобыльская «война» продолжается уже 29 лет. В ней есть все: чудовищный взрыв, невидимый враг, люди, которые закрывали собой атомную амбразуру, ковровые бомбардировки огромных площадей «мирным атомом», беженцы и переселенцы, солдаты и добровольцы, мародеры и «диверсанты-заготовители», которые травят ягодами, грибами, рыбой и мясом из зоны своих соседей, москвичей… Строительство саркофага, частичное его разрушение, ремонты, усиления; незаконченное до сих пор строительство «Укрытия-2», огромные загрязненные площади, непредсказуемые медицинские и генетические последствия…

В этой войне не будет победителей. Но есть настоящие герои того «1-го Чернобыльского фронта»: молодые солдатики и взрослые мужики, которые мало что понимали; ученые, которые все понимали, но не отсиживались в кабинетах, а были на «передовой»; молодые лейтенанты-средмашевцы (мои товарищи по работе), которые летели за тысячи километров в Чернобыль. Десятки советских и партийных работников, которые организовывали все, не щадя своих жизней. Я горжусь тем, что лично знал **Александра Адамовича Граховского.** Это Настоящий Герой Беларуси!

В преддверии юбилея Чернобыля надо было бы назвать одну из улиц Гомеля в честь героев-чернобыльцев и присвоить посмертно звание Героя Беларуси Александру Адамовичу Граховскому.

Чтобы помнили…

**Александр МЕЛЬНИКОВ.**

ДЗЯКУЙ!

# А свет не без добрых людзей

У гэта веру, хто б што ні казаў, спасылаючыся на час: маўляў, зараз не да высокіх матэрый, усе дбаюць толькі аб сваім, каб хоць неяк выжыць…

Не спрачаюся, часы цяпер не лепшыя, і дбаць аб уласным выжыванні даводзіцца, ды і трэба, кожнаму. Але ж жыць толькі гэтым – звар'яцець можна!

…Мне ўжо выпадала расказваць у газеце пра народны тэатр фальклору **"Матуліна хата",** што ўзнік і працуе пры тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Маскоўскага раёна г.Мінска. Узнік ён у мікрараёне "Малінаўка" больш за тры гады таму і вядомы ўжо не толькі ў сталіцы, а і ў далёкай глыбінцы.

Нагадаю, як усё пачыналася. Даўно я заўважаў, што на лавачках ля шматпавярховак, дзе жывуць перасяленцы з чарнобыльскай зоны, збіраюцца, як калісьці на вёсцы, старыя людзі. Ніяк не прывыкнуць да новага, гарадскога ладу жыцця, яго нязвыклага рытму, гулу-грукату. Не знаюць, за што рукі зачапіць, чым заняцца, калі не вядзе да звыклых неадчэпных спраў пільная патрэба. Заслужаны адпачынак, кватэра з усімі выгодамі – гэта, канечне, добра, але… Вяскоўцы сумуюць без роднай хаты, роднага поля, любых сэрцу краявідаў. Вось і выбіраюцца са сваіх утульных кватэр "на сяло" – лавачку ля пад'езда, каб пагутарыць з землякамі, згадаць аб дарагім, страчаным незваротна з-за нечаканай страшнай навалы. Сядзяць часцей за ўсё з сумнымі тварамі, уздыхаюць, маўчаць. А то і – чую – заводзяць знаёмую змалку песню роднай старонкі.

Часта гаварыў са сваімі палескімі землякамі, разам думалі-гадалі: як падвесяліць тужлівы настрой людзей, сабраць спеўны гурт, каб пачулі яго не толькі ў межах гарадскога двара. І, галоўнае, каб адчулі адарваныя ад бацькоўскага кута вяскоўцы, што яны цікавыя і патрэбныя не толькі свайму перасяленскаму колу.

Насустрач нам прыйшлі добрыя людзі з ужо згаданага тэрытарыяльнага цэнтра, выдзелілі нам прасторнае памяшканне. Былыя палешукі панеслі сюды маляўнічыя вышыванкі, уборы, ручнікі, абрусы, тканыя посцілкі і дарожкі ўласнага вырабу. Бачым – можна цэлую вясковую хату аздобіць, вось і перанясём яе ў горад. Зручна тут збірацца на пасядзелкі-вячоркі, спяваць і танцаваць, узнаўляць традыцыйныя нашы абрады і святы, якія ў памяці змалку і без якіх не ўяўлялася жыццё. Хай прыходзяць у гэтую хату ўсе, хто пажадае. Прыходзяць і далучаюцца да глыбіннай народнай культуры, ад якой многія гараджане аказаліся адарваныя і, таго не разумеючы, папросту зБедненыя.



Пісьменнік, бізнесмен Валерый Сарока.



Артысты "Матулінай хаты" прыехалі на вёску.

Атрымалася ўсё, як задумвалі, нават больш за тое. Народны тэатр па імені "Матуліна хата" здолеў стаць прыцягальным цэнтрам для многіх жыхароў Малінаўкі. Услед за таленавітымі і ўсё яшчэ галасістымі старэйшымі жанчынамі пацягнуліся іх дочкі і ўнукі, моладзь. Нават з іншых раёнаў сталіцы сталі прыязджаць, каб спасцігаць мудрасць сваіх продкаў, багаты паэтычны і вобразны свет народнага мастацтва. Ды і самі з ахвотай ўключаюцца ў творчы працэс.

Першыя поспехі акрылілі нашых артыстаў. Дзе б ні выступалі ці ў сваю "хату" запрашалі – паўсюль усхваляваныя твары, падзякі, просьбы як часцей ладзіць святы, без якіх чарсцвее душа.

Аднойчы мы замахнуліся на далёкую, але ўсім жаданую вандроўку на зямлю сваіх бацькоў і дзядоў – Гомельшчыну. Вельмі ж хацелі пабачыць наш тэатр у Жыткавічах і Тураве, з якімі цесна звязаны лепшыя гады майго жыцця. Тут у свой час я меў гонар ствараць ансамблі народнага танца, якія жывуць дагэтуль і маюць вялікую папулярнасць. Падрыхтавалі мы спецыяльную праграму "Люблю наш край" і гатовы былі выправіцца ў дарогу. Ды як? Мы ж працуем як самадзейны калектыў, без фінансавых уліванняў…

Але свет і сапраўды не без добрых людзей. На выручку прыйшоў цудоўны чалавек – пісьменнік, бізнесмен **Валерый Сарока**. Былы вясковец, ён па-сыноўску любіць вёску і яе людзей. Дзякуючы бескарыслівай дапамозе Валерыя Ларывонавіча мы і апынуліся там, дзе нас чакалі. І былі невыказна шчаслівыя, калі, наведваючы з падарункамі і вянком родных песень дамы састарэлых і сельскія клубы, бачылі іскрынкі радасці ў вачах людзей, што ў свой час аддалі ўсе сілы і здароўе дзеля таго, каб жыла наша зямля. І сам паэт – а ён быў разам з намі – не раз змахваў слязу…

Цяпер збіраемся наведаць Дзіцячы чарнобыльскі фонд у Буда-Кашалёве, затым зноў паедзем у Жыткавічы і далей – у Столінскі раён. І зноў, дзякуючы шчодрасці Валерыя Сарокі, сённяшнія палешукі сустрэнуцца са сваімі даравітымі землякамі, што і ў вялікім горадзе не забыліся пра бацькоўскі кут, нясуць у сэрцы і на вуснах галасы-мелодыі любай навекі зямлі, знаёмяць са сцэнкамі з даўнейшага жыцця, танцамі-карагодамі, абрадавымі дзеяннямі, іх зарадам дабрыні і святла.

На гэты раз з салодкімі дарункамі павязём на Палессе кнігі паэта-дабрадзея, а таксама газету "Народная Воля". Хай разам з песняй прыходзіць да людзей і добрае слова Праўды і Надзеі.

З надыходзячымі Калядамі і Новым годам, дарагія людзі! Хай шчасціць вам ва ўсім, паўсюль і заўжды!

**Мікола КОТАЎ, харэограф, мастацкі кіраўнік тэатра фальклору "Матуліна хата".**

*Мінск.*

КАРЦІНА ЖЫЦЦЯ

# Чаму сантэхнікі прыходзяць без запчастак?

8 снежня 2015 года да мяне ў кватэру нечакана завіталі сантэхнікі ЖЭС №93, каб праверыць спраўнасць сантэхнічнага абсталявання, бо ў суседзяў, якія пражываюць паверхам ніжэй, працякае вада. Выявілася, што пад лічыльнікам гарачай вады неабходна замяніць пракладку. Але ў сантэхнікаў, аказваецца, нават такой простай запчасткі не бывае! Яны параілі мне з'ездзіць за ёю на калгасны рынак у гаспадарчы магазін. Паехала, але там пракладкі не аказалася. Прадаўшчыца параіла з'ездзіць ва ўнівермаг "Беларусь". Там я купіла пракладку і хуценька пабегла ў дыспетчарскую, каб паспець да канца рабочага дня вызваць сантэхнікаў, бо яны ж адключылі гарачую ваду. Але для таго, каб выклікаць іх, трэба схадзіць да нейкага спецыяліста ЖЭС №93, каб ён ацаніў паслугу і выпісаў квіток на аплату. Бяру квіток і бягу ў банк аплачваць (заплаціла 97.600 рублёў) і вяртаюся ў дыспетчарскую, але рабочы дзень закончыўся, і заяўку прымаюць толькі на заўтра.



9 снежня прыйшлі два маладыя чалавекі і ўстанавілі пракладку. Я заўважыла, што гэта заняло пяць хвілін (16.45–16.50). Я здзівілася, што за такую прымітыўную работу мне давялося заплаціць 97.600 рублёў. А колькі ж тады каштуюць больш складаныя работы, напрыклад, замяніць кран ці прачысціць сцёк вады? Ці не надта дарагая паслуга? Гэта, на мой погляд, не паслуга, а абдзіралаўка! Мы кожны месяц плацім немалую суму на тэхнічнае абслугоўванне. Што гэта значыць?

На мой погляд, прафілактычны агляд і рамонт вузлоў і дэталяў, якія знасіліся, – гэта і ёсць тэхнічнае абслугоўванне. А з пункту гледжання спецыялістаў, што гэта такое?

І яшчэ. Калі такі рамонт, як замена пракладкі, не ўваходзіць у аплачваемае намі тэхнічнае абслугоўванне, то, мусіць, варта было б забяспечыць сантэхнікаў ну хоць бы такімі дробнымі запчасткамі, як пракладкі (кошт адной – 1300 рублёў), каб ім не даводзілася дарэмна губляць час, а кліентам – бегаць шукаць па магазінах. На маю думку, такія работы павінны праводзіцца бясплатна, бо я ж не вінавата, што пракладка не вытрымала гарантыйнага тэрміну ці майстар неахайна яе ўстанавіў.

**А.С.ГУРСКАЯ.**

*Мінск.*

ОТКЛИКНИТЕСЬ!

# «Природа и фантазия» нуждается в друзьях

Природа и фантазия… Согласитесь, о многом говорит сочетание этих слов. Не случайно в далеком 1968 году группа творческих людей создала любительский клуб с таким названием.

Вначале в него входили мастера традиционных для Беларуси видов творчества: соломоплетение, лесная скульптура, флористика. Со временем круг интересов членов клуба расширялся, появлялись новые направления: лоскутное шитье, ленточный дизайн, валяние из шерсти…

Помнится, в 1970 году в клуб пришла народная артистка СССР Стефания Михайловна Станюта. Она принесла прекрасно выполненную бижутерию из природных материалов. Даже сейчас ее экспонаты занимают достойное место на наших выставках.

Не могу не сказать, что спустя несколько лет после открытия клуба «Природа и фантазия» ее руководителем стал Александр Александрович Лейко. Это большой энтузиаст своего дела. Он сам с давних пор занимается «лесной» скульптурой.

Членами нашего клуба являются в большинстве своем люди пенсионного и предпенсионного возраста. Мастерство многих из них имеет широкий диапазон. Мы устраиваем выставки в библиотеках и в других местах, где находим поддержку. А несколько лет назад Александр Александрович стал вывозить наши выставки в районные города. И везде в книгах отзывов теплые слова в адрес авторов экспонатов, восхищение тонким мастерством не профессиональных, а мастеров-любителей. Там, где была возможность, проводились мастер-классы, и, я думаю, после этого появились новые любители рукоделия.

Наша организация общественная, никем не финансируется. А если учесть, что, как я уже сказала, основные участники клуба пенсионеры, то можно понять, как непросто в наше время устроить выставку, не имея никаких средств.

Все, что нужно для этого, Сан Саныч (так мы его называем) в основном покупает за собственные деньги. Он долго искал помещение, где мы могли бы собираться, обсуждать текущие дела. Но платить аренду клуб не в состоянии. Если вначале нам предоставляли какие-то помещения в обмен на наши выставки, то впоследствии хозяевам это казалось невыгодным, и нам приходилось уходить. Куда только не обращался Александр Александрович с письмами! Ходил на прием и в горисполком, и в Министерство культуры, и в Палату представителей, но, к сожалению, отовсюду присылали отписки (в лучшем случае), а иногда доходило до оскорбительных эпитетов в адрес творческих работ наших участников, хотя наши экспонаты и в глаза не видели. Если иногда и предлагали какое-то помещение, то это были совершенно непригодные варианты. И, видимо, уже так досадил Сан Саныч руководителям от культуры, что в последнее время даже если и устраиваются наши выставки (на определенный срок), то через непродолжительное время звонят и просят забрать экспонаты: мол, помещение нужно под что-то другое.

Вот такое отношение у нас к людям, которые пытаются нести свое творчество в массы, не требуя взамен ни денег, ни наград.

Может, прочитав мое письмо, найдется в Беларуси человек, который протянет руку помощи нашему клубу «Природа и фантазия».

**Евгения Михайловна РОКАШЕВИЧ.**

СИТУАЦИЯ

# Верните премии!



Стоит ли удивляться, почему спивается народ? На какие только ухищрения не идут ради этого производители горячительных напитков! Вот, например, СООО «Малиновщизненский спиртоводочный завод – «Аквадив» придумал специальные бонусы для торговых предприятий. И немалые. Скажем, только за семь месяцев нынешнего года поощрения для ООО «Евроторг» составили почти 10 миллиардов рублей, для ЗАО «ЮпифудаКолодищи» – 603 с половиной миллиона, для Стародорожского райпо – 137,3 миллиона, для Молодеченского райпо – более 118 миллионов рублей.

Малиновщизненские спиртоводочники старались заманить в свои сети и частную торговлю, регулярно перечисляя им энные суммы в виде торговых премий. С одной целью – чтобы индивидуальные лавочники, как и все остальные, старались сбывать как можно больше водки, вина, других спиртных напитков. Не хлебом же единым жив человек, в хмелю легче принимаются и те трудности, которые каждодневно опутывают горемыку.

Но у властей свои проблемы, и они признали практику торговых бонусов негодной. Мол, все деньги от реализации спиртоводочной продукции должны идти в бюджет. А потому помните, какое поручение было дано А.Лукашенко на совещании по вопросам развития алкогольной промышленности 20 августа? Взыскать с торговых организаций все деньги, перечисленные им в виде бонусов. Взыскать, несмотря на то, что в подавляющих случаях торговые премии отнесены к прибыли и со всех их сумм уплачены налоги в бюджет.

В непростом положении оказались многие точки, реализующие спиртоводочную продукцию. В конце года экономические показатели и без того упали, а тут нужно вернуть в казну миллионы, а то и миллиарды рублей.

Радуются только те, кто входит в общественное объединение трезвенников. Без премиальных работники торговли, может быть, не станут проявлять такую прыть в сбыте «зеленого змия», какую проявляли ранее.

**Георгий СТАШЕВСКИЙ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# Хто ж варты нацыянальнай літаратурнай узнагароды?

***Раз на два гады Аляксандр Лукашэнка ўручае дзяржаўныя прэміі, у тым ліку – у галіне літаратуры і мастацтва. Наколькі вядома, літаратараў сярод лаўрэатаў апошнім разам увогуле не было. Як я разумею, таму, што не знайшлі ў краіне тых, хто варты ўзнагароды. І вось зараз цікавая сітуацыя: з аднаго боку, набліжаецца час уручэння дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь, з другога боку, ужо ўвесь свет прызнаў, што пісьменнікаў, вартых нават самых аўтарытэтных сусветных узнагарод, Беларусь мае. Таму мне проста цікава: хто ад літаратараў гэтым разам вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі ў галіне літаратуры?***

**Жанна САПРУНОВІЧ, Мінск.**

Афіцыйная інфармацыя пра тое, хто знаходзіцца ў спісе на суісканне Дзяржаўнай прэміі, яшчэ не была абнародавана. Але што тычыцца літаратараў, то "Народная Воля" інфармацыю высветліла. На атрыманне Дзяржаўнай прэміі вылучаны **Міхась Пазнякоў**, кіраўнік мінскага гарадскога аддзялення чаргінцоўскага Саюза пісьменнікаў.

Пазнякоў – хрэстаматыйны дзіцячы пісьменнік, перакладчык, аўтар "Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" ў двух тамах, іншых навуковых прац у галіне мовазнаўства.

Што выбітнага Міхась Пазнякоў напісаў у апошнія два гады, нам цяжка сказаць. У любым выпадку нейкай з'явай у літаратурным жыцці яго творы не сталі і вялікага рэзанансу не мелі.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 СНЕЖНЯ 2015 г.

ШТО ТАМ, У СУСЕДЗЯЎ?

# «Яны гатовы жыць без святла і вады, толькі б застацца ўкраінцамі...»

*Рэгіянальныя выбары ва Украіне прайшлі яшчэ 25 кастрычніка. Аднак з-за праведзення антытэрарыстычнай аперацыі па-за выбарчым працэсам апынулася частка Данецкай вобласці, Марыупаль і некаторыя іншыя тэрыторыі. Выбары там былі перанесены на месяц і адбыліся толькі напрыканцы лістапада. Туды, у зону баявых дзеянняў, падчас правядзення электаральнай кампаніі ў якасці назіральніка адправілася беларуская праваабаронца* ***Наталля Гарачка.*** *За час знаходжання ва Украіне яна разам з жыхарамі пасёлка Гранітнае, што ў Валнавахаўскім раёне Данецкай вобласці, двойчы трапіла пад мінамётны абстрэл.*

*Аб тым, як адбываюцца выбары ва Украіне, як ва ўмовах баявых дзеянняў выжываюць украінцы, Наталля Гарачка распавяла карэспандэнту «Народнай Волі».*

– Ва Украіну я адправілася пасля таго, як прайшла спецыяльнае анкецiраванне і атрымала статус назіральніка ад місіі АБСЕ, – расказвае Наталля. – За час знахожання ва Украіне пабывала на розных выбарчых участках у Харкаве, Днепрапятроўску, Марыупалі. Мая галоўная вынова наконт выбарчага працэсу такая: у ахопленай вайной Украіне выбары праходзяць больш адкрыта, празрыста і дэмакратычна, чым у мірнай Беларусі.

**– Што вы маеце на ўвазе?**

– Мне ёсць з чым параўноўваць, паколькі ў Беларусі я была назіральнікам падчас розных кампаній. У адрозненне ад нашай краіны, ва Украіне ў празрыстым выбарчым працэсе зацікаўлены ўсе – ад шараговага выбаршчыка да старшынь выбарчых камісій. Мяркуйце самі.

Па-першае, ва Украіне няма датэрміновага галасавання. Па-другое, урны на ўсіх участках – празрыстыя. Іх нельга не тое што выносіць з участкаў, а нават перасоўваць хаця б на сантыметр. За гэтым сочаць усе: не толькі назіральнікі, а і сябры камісій. Па-трэцяе, падчас падліку галасоў старшыня камісіі робіць (не дазваляе камусьці, а менавіта самастойна робіць) усё, каб назіральнікі маглі бачыць кожны бюлетэнь. Кожны бюлетэнь асобна дэманструецца ўсім зацікаўленым бакам, каб было бачна, за каго аддадзены той ці іншы голас. Пасля таго, як падлік адбыўся, назіральнікаў запрашаюць сфатаграфаваць ці зняць на відэа працэс апячатвання бюлетэняў. У параўнанні з беларускімі выбарчымі рэаліямі выбары ва Украіне – казка. І што самае важнае –потым няма ніякіх сумневаў у сапраўднасці вынікаў!

**– Заўваг, я так разумею, у вас не было...**

– Былі. Разумееце, ва Украіне нельга сфальсіфікаваць выбары на этапе галасавання. Таму некаторыя кандыдаты рабілі гэта загадзя. У тым жа Харкаве літаральна на кожным ліхтарным слупе адкрыта віселі аб'явы аднаго з кандыдатаў: "Куплю голас". Ніжэй кошт – сума даходзіла да 800 грывень (*35 долараў. –* ***Аўт.***) і кантактны тэлефон. Мы павінны былі ў тым ліку "адлоўліваць" і тых, чый голас быў куплены.

**– А як вызначыць, што на ўчастак прыйшоў "куплены" выбаршчык?**

– Усё проста: яму ж трэба даказаць, што ён "правільна" прагаласаваў, і таму падкупленыя людзі фатаграфавалі свае бюлетэні. Назіральнікі, убачыўшы ў кабінцы фотаўспышку, неадкладна інфармавалі пра гэта старшыню камісіі. Некалькіх падкупленых выбаршчыкаў я злавіла за руку самастойна. Да таго ж пры падліку галасоў на адным з участкаў мае лічбы і лічбы, агучаныя камісіяй, не супалі – паводле маіх падлікаў, за кандыдата было аддадзена на адзін голас больш, чым агучана. Я звярнула ўвагу старшыні камісіі на гэты факт. І што вы думаеце? Той спакойна, без скандалу, стаў пералічваць бюлетэні. Дарэчы, мая лічба аказалася правільнай, і аднаму з кандыдатаў вярнулі скрадзены голас. Здавалася б, драбніца, але менавіта з такіх драбніц і складаецца карціна празрыстасці ўсяго выбарчага працэсу.

**– Ведаю, што акрамя назірання за выбарамі вам давялося пабываць і ў зоне правядзення антытэрарыстычнай аперацыі...**

– Так, мне давялося патрапіць у пасёлак Гранітнае Валнавахаўскага раёна Данецкай вобласці. Каб вы разумелі, гэты населены пункт аддзелены ад іншых ракой Кальміус. Дык вось там, на іншым беразе, вёска Старамар'еўка, якая кантралюецца сепаратыстамі. Можна сказаць, што Гранітнае знаходзіцца на лініі прамога сутыкнення з сіламі, якія супрацьстаяць Нацгвардыі Украіны.

Што я там пабачыла? Гранітнае – напалову знішчаны населены пункт. Разбураныя дамы, школа з выбітымі шыбамі, будынак шпіталя без даху... Першае, што кінулася ў вочы, – адсутнасць электрычнасці. Справа ў тым, што лініі электраперадачы, якія забяспечвалі населены пункт святлом, засталіся ў пасёлку Тэльманава, які не кантралюецца ўкраінскай арміяй. "Мірныя



апалчэнцы", "абараняючы ўкраінцаў ад навалы", не знайшлі нічога лепшага, як адключыць падачу ў Гранітнае святла, а значыць, і вады, бо населены пункт трымаўся на электрапомпах. На момант майго прыезду пасёлак жыў так ужо амаль месяц. Але людзі не пакідаюць родныя хаты, застаюцца ў Гранітным. Калі я там знаходзілася, то ў пасёлку жыло дзве з паловай тысячы чалавек, а ў мірны час колькасць насельніцтва складала прыкладна сем тысяч. Людзі не пакідаюць свае дамы з дзвюх прычын: па-першае, многім папросту няма куды падзецца, па-другое, людзі застаюцца для таго, каб тут заставаліся і ваенныя, якія іх абараняюць.

**– Як выжываюць жыхары Гранітнага?**

– Украіна выконвае сацыяльныя абавязацельствы перад сваімі грамадзянамі ў зоне АТО – людзям плацяць пенсіі, зарплаты. Аднак гранітны завод, на якім працавала большасць жыхароў пасёлка, зараз не дзейнічае. Людзі вымушаны перабівацца разавымі заробкамі ці ездзіць на працу ў Марыупаль.

Адзначу, жыхары Гранітнага размаўляюць па-руску і пры гэтым лічаць сябе ўкраінцамі і не разумеюць, хто іх і ад каго прыйшоў абараняць. Яны гатовы жыць без святла і вады, толькі б застацца ўкраінцамі, гатовы цярпець столькі, колькі трэба. А выжываюць дзякуючы ўкраінскім ваенным. У Гранітным расквартараваны батальён украінскіх вайскаў. Камандзір батальёна вельмі клапоціцца аб мясцовых жыхарах. Яго байцы дапамагаюць мясцовым жыхарам з лекамі і прадуктамі. Каб хоць неяк наладзіць жыццядзейнасць пасёлка, ваенныя аддалі мірным жыхарам генератары, якія працуюць на салярцы. Святло ў пасёлку ёсць, але выкарыстоўваюць яго толькі для таго, каб прыгатаваць ежу для дзетак у садку і школе, якія, дарэчы, адрамантавалі таксама ўкраінскія вайскоўцы. Дарэчы, нягледзячы на ваенныя дзеянні, заняткі ў мясцовай школе не спыняліся ні на адзін дзень. Праўда, праходзяць яны толькі ў светлы час сутак.

На пачатак навучальнага года ў Гранітным было каля 190 школьнікаў рознага ўзросту. Я пагутарыла з дырэктарам школы – Лесяй Сцяпанаўнай Косэ. Што сказаць – гэта вельмі моцная духам жанчына. Пасля пачатку баявых дзеянняў яна не пакінула Гранітнае, засталася разам з дзецьмі і зараз клапоціцца, каб кожны школьнік хоць бы раз у дзень паеў. Гатуюць дзецям прама ў школе. Калі няма святла, ежа гатуецца ў кацялках на дровах. Школа ахоўваецца ўзброенымі ваеннымі. Тут жа на падлозе ў школе расцелены матрацы, загатоўлена вада, каб можна было перасядзець раптоўны абстрэл. Карціна, з аднаго боку, жахлівая, а з іншага – прыходзіць разуменне таго, наколькі некаторыя людзі самаахвярныя... Як, напрыклад, гаспадыня адзінай у Гранітным крамы. Жанчына не закрыла бізнес, хаця, зразумела, зараз яўна не даводзіцца разлічваць на прыбыткі, але магазін працуе для таго, каб мясцовыя маглі купіць самыя неабходныя прадукты.

Глядзела я на гэтых людзей і лавіла сябе на думцы: наколькі ж нашы праблемы мізэрныя ў параўнанні з тым, што даводзіцца перажываць людзям там!

**– А як выконваюцца Мінскія пагадненні? Пад абстрэлы траплялі?**

– Раней такое я бачыла толькі ў кіно... Хаця ў кіно перад бамбёжкай ці абстрэлам гучыць папераджальная сірэна... У Гранітным усё прасцей і страшней: бачыш, што шыбы затрэсліся ці пачалі вылятаць – хавайся. Людзі да гэтага, на вялікі жаль, ужо прызвычаіліся. Як толькі пачынаецца абстрэл, усе арганізавана хаваюцца ў сутарэннях. Калі абстрэл цягнецца суткі, украінскія ваенныя аддаюць мясцовым жыхарам прадукты харчавання, каб людзі дажылі да магчымасці выйсці на вуліцу...

За той час, што я была ў Гранітным, нас абстрэльвалі двойчы – яскравы прыклад таго, як выконваюцца Мінскія дамоўленасці аб перамір'і. Абстрэл пачаўся пад вечар... Стралялі з мінамётаў, ды так, што павыбівалі ў школе шыбы... Перачакаць абстрэл давялося ў бункеры. Усяго было чатыры мінамётныя стрэлы. Цягнулася гэта, можа, паўгадзіны. Калі быццам бы ўсё сціхла, я выйшла са схованкі. І тут – аўтаматныя чэргі... Украінскія ваенныя крычма крычалі: "Назад, у бункер!" Карацей, давялося перажыць некалькі жахлівых імгненняў...

**– А сярод украінскіх ваенных настрой які?**

–Пытанне неадназначнае. Пачну здалёк. Я на ўласныя вочы бачыла, як на захопленых "апалчэнцамі" тэрыторыях адна агнявая кропка абстрэльвае іншую. Так для расійскіх ТБ-каналаў ствараецца карцінка, што ўкраінцы першымі быццам бы адкрываюць агонь па пазіцыях сепаратыстаў. Насамрэч украінскі бок выконвае Мінскія пагадненні. Наколькі я магла бачыць, украінцы ніколі не страляюць першымі, бо, згодна з дамоўленасцямі, яны маюць права толькі абараняцца – умоўна кажучы, адказваць тады, калі іх жыццям пагражае рэальная небяспека. Таму настрой сярод украінскіх ваенных такі: калі б далі загад, то "апалчэнцаў" бы выціснулі да расійскай мяжы. І выціснулі б даўно. Загада такога няма, а хлопцаў, якія гінуць на гэтай вайне з украінскага боку, з кожным днём усё больш...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



СЛЫШАЛИ?

## Мать Терезу объявят святой в сентябре 2016 года

Основанием для канонизации стало излечение 35-го бразильца ее молитвами.

Процедура канонизации, которая возведет мать Терезу в лик святых, по решению Папы Римского Франциска состоится 4 сентября 2016 года. Об этом сообщает Corriere della Sera. По словам понтифика, это событие станет одной из основных вех проходящего Юбилейного года милосердия.

Специальная комиссия Ватикана по прославлению подвижников церкви признала чудом научно не объяснимое излечение 35-го бразильца молитвами матери Терезы, что служит формальным основанием для причисления ее к лику святых.

Албанка по происхождению, мать Тереза родилась в Скопье в 1910 году, но много работала в Калькутте (поэтому ее часто называют мать Тереза из Калькутты), где основала благотворительную миссию. Там же она скончалась в 1997 году. В 1979 году мать Тереза удостоилась Нобелевской премии мира. В 2003 году по инициативе Папы Иоанна Павла II она была провозглашена блаженной.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА



# НЯСКОРАНЫ МІХАІЛ МАРЫНІЧ

## ГІСТОРЫЯ Ў ФОТА

### Сустрэча пятая: жыццёвыя катаклізмы

*(Працяг. Пачатак у №№96–99.)*

Калі ў мяне пытаюцца, навошта было ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года, я адказваю: бывае, у жыцці чалавеку патрэбна зрабіць галоўны выбар. Я яго зрабіў і ніколі аб гэтым не шкадаваў.

А паўплывала ў першую чаргу тое, што ўбачыў у Эстоніі і Латвіі.

Як кажуць, мы з імі выйшлі з аднаго "балота", якое некалі называлася СССР, то бок стартавалі амаль з аднолькавых пазіцый, аднак гэтыя краіны вельмі хутка абагналі Беларусь у сваім развіцці.

Рыначную эканоміку там пачалі будаваць адразу пасля вызвалення ад Савецкага Саюза і выкладаць яе ў навучальных установах. Тая ж Латвія, напрыклад, вельмі хутка стала галоўным знешнегандлёвым партнёрам Беларусі, абагнаўшы па гэтым паказчыку такіх "мастадонтаў", як Германія і Англія.

Ганаруся, што ў гэтым ёсць і часцінка маёй працы ў якасці беларускага амбасадара. Пацвярджэнняў падобнай выснове можна прывесці нямала, але я спынюся толькі на адным прыкладзе.

У афіцыйны Дзень Незалежнасці нашай краіны, то бок 3 ліпеня 2000 года, мне ўдалося прывезці ў Беларусь (дакладней, у Віцебск) усіх акрэдытаваных у Латвіі замежных амбасадараў. Яны змаглі азнаёміцца з работай прыватнага на той час прадпрыемства "Марка" і пагаварыць з яго дырэктарам Мартынавым. На ўласныя вочы пабачыць адно з першых сумесных прадпрыемстваў "Белвест", што стваралі разам з нямецкай "Саламандрай".

Замежным дыпламатам было цікава пабываць у доме, дзе нарадзіўся Марк Шагал, і ў сядзібе вядомага мастака Іллі Рэпіна, паглядзець на чашу амфітэатра, дзе праводзіцца "Славянскі базар". Была, канешне, і нефармальная частка, з якой і захавалася гэтае фота.



**На свежым паветры.**

Вельмі хацелася, каб гэтым шляхам ішла і Беларусь, таму я імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб за мяжой лепш пра нас ведалі. Напрыклад, на адкрыццё ў Рызе вядомай выставы "БелЭкспа" прыехаў тагачасны кіраўнік урада і мой былы пратэжэ Уладзімір Ярмошын.

Дарэчы, пра такія прыклады вельмі станоўча потым выказалася беларускае МЗС. Маўляў, так і павінны працаваць дыпламаты. Безумоўна, тая паездка крыху падкарэктавала стэрэатыпы ўспрымання за мяжой нашай краіны, але засталася толькі "пясчынкай у моры".

Галоўнае – адчуванне свабоды. У іншаземцаў на тварах – усмешкі, у магазінах – чаго толькі няма. У Беларусі ўсё было наадварот. Зноў пачала адраджацца бюракратыя, і "заточана" яна была толькі на рабскае ідалапаклонства, а курс мы абралі вельмі далёкі ад хоць якіх дэмакратычных каштоўнасцяў.

Краіна пагружалася ў дыктатуру, якая моцна ўплывала на развіццё эканомікі і эканамічны курс. У беларускім МЗС сталі традыцыйнымі "накачкі" амбасадараў. Мы павінны былі не толькі татальна шукаць грошы, але і хлусіць замежным калегам пра "зніклых", пра таямнічыя смерці патэнцыяльных канкурэнтаў Лукашэнкі, такіх як Генадзь Карпенка.

Смерць апошняга стала для мяне вельмі моцным ударам, бо з ім у мяне былі добрыя, прыязныя адносіны. Мы даволі часта сустракаліся, падоўгу размаўлялі.

Вельмі спрыяў гэтаму збліжэнню наш агульны знаёмы, палітолаг Анатоль Майсеня (які, на жаль, таксама таямніча загінуў).

Калі я пасля ліквідацыі МЗЭС ехаў паслом у краіны Балтыі, Генадзь Карпенка так і сказаў: "Беражы сябе, мы яшчэ разам папрацуем".

Спачатку я ўручыў даверчыя граматы ў Рызе, потым у Таліне і Хельсінкі. Паром да Фінляндыі з эстонскай сталіцы ходзіць кожныя паўгадзіны. Вельмі зручна, асабліва калі ўлічыць, што на яго можна заехаць і са сваёй (пасольскай) машынай.

Менавіта ў гэты перыяд адбыліся кардынальныя змены ў маім асабістым жыцці. Каб больш не вяртацца да гэтага пытання, скажу, што з самымі добрымі пачуццямі стаўлюся да маёй першай сям'і, да сыноў Паўла і Ігара, да жонкі Людмілы і сваякоў. Заўсёды з задавальненнем іду з імі на кантакт.



**Разам з Людмілай, сынам Паўлам, унукам Захарам і Дзедам Марозам са Снягуркай.**

Лёс распарадзіўся так, што з Людмілай мы разышліся і ў маё жыццё ўвайшла Таццяна Баранава. Гэта маё каханне да скону дзён. Дзякуючы ёй на свет з'явіўся яшчэ адзін Міхаіл Марыніч. Малодшы.

Вясной 2001 года былі абвешчаны чарговыя прэзідэнцкія выбары. Я адразу напісаў заяву з просьбай даць адпачынак на ўвесь перыяд выбарчай кампаніі. Аднак атрымалася інакш: мяне банальным чынам адазвалі і ў хуткім часе звольнілі.

Пасля рашэння ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах адносіны калег вельмі змяніліся. Гэта я адчуў даволі востра. Некаторыя нават перасталі вітацца.

Хаця ў мяне і была кватэра ў Мінску, па зразумелых прычынах прыходзілася пастаянна жыць у Рызе. З Беларусі да нас часта нехта прыязджаў у розныя камандзіроўкі. Ад іх і патыхала нейкім халадком.

Раз і назаўсёды хачу выказацца пра "ўплыў Мясніковіча" альбо некага іншага.

Я дастаткова самастойны чалавек, каб вырашаць свой лёс незалежна ні ад кога. Безумоўна, вельмі хацелася, каб наменклатура мяне тады падтрымала, бо настроі ў кіраўнікоў былі не вельмі спрыяльныя для Лукашэнкі і таму нейкія падставы ў прыхільнікаў "тэорыі змовы" ўсё ж існавалі.

Напрыклад, у выглядзе адпачынку на Рыжскім узмор'і Мясніковіча, які тады кіраваў прэзідэнцкай Адміністрацыяй. Асабліва калі ўлічыць, што адбывалася гэта напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, а я, як беларускі пасол, павінен быў з ім кантактаваць…

Аб чым мы размаўлялі, зараз неістотна, бо далей слоў нічога не пайшло…

Дарэчы, пазней менавіта Міхаіл Уладзіміравіч патэлефанаваў мне ў Латвію, і яго галоўны, як модна зараз казаць, мэседж можна сфармуляваць так: "Навошта табе гэта трэба?"

Па сутнасці, прыняць паўнавартасны ўдзел у выбарах не атрымалася, аднак нават па сустрэчах, якія ў мяне ўсё ж такі адбыліся, магу сказаць упэўнена: шанец перамагчы быў.

На жаль, яго не скарысталі.

У тым, што мяне не дапусцілі да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах, у першую чаргу вінаваты тыя, хто кіраваў выбарчым штабам. Мяне элементарна "кінулі" Сечка, Пашкевіч і нейкі Алампіеў. Яны добра ведалі, што да некаторых подпісаў будуць прэтэнзіі, але наўмысна падставіліся. А потым вельмі хутка вярнуліся на месцы сваёй былой працы і "забылі" пра свае "сімпатыі" да рыначнай эканомікі і дэмакратыі.

На жаль, "кінулі" не толькі мяне. Падманулі і тых, хто непасрэдна збіраў подпісы, і тых, хто звязваў з прозвішчам Марыніча шчырую надзею на перамены.

Адкрыта кажу, такой здрады я не чакаў. Крыўда на гэтых людзей у мяне засталася і па сённяшні дзень. І не толькі ў мяне. Няхай ім за свой учынак будзе сорамна перад нашчадкамі.

Самае агіднае, што працавалі ў выбарчым штабе яны зусім не бескарысліва. Менавіта з-за такіх "дзеячаў" палітыку і называюць бруднай справай…

Хутчэй за ўсё ім нехта "дапамог".

Расказвалі, што будучы старшыня КДБ Сухарэнка публічна хваліўся, што мяне ніколі не дапусцяць да выбараў.

І ўвогуле. Як і раней, я лічу, што ў нашай апазіцыі можа атрымацца нешта станоўчае толькі ў тым выпадку, калі ёю перастануць "кіраваць" беларускія спецслужбы.

На жаль, у 2001 годзе нічога станоўчага не атрымалася.

Калі Уладзімір Ганчарык стаў адзіным апазіцыйным кандыдатам, я актыўна падтрымаў яго, аб чым сведчаць і здымкі таго часу, якія захаваліся ў сямейным архіве.



**Разам з Сяргеем Калякіным, Паўлам Казлоўскім і Міхаілам Чыгіром.**



**Сярод выбаршчыкаў.**

Яшчэ падчас знаходжання ў розных уладных структурах (міністэрская і пасольскія пасады) я заўсёды цікавіўся эканамічным развіццём нашай краіны, аднак па зразумелых прычынах быў абмежаваны ў магчымасці выказацца. Усё змянілася пасля публічнага намеру прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года. Улада больш не лічыла мяне сваім, а я не лічыў у далейшым магчымым стрымліваць асабістыя эмоцыі.

Мякка кажучы, яны былі не на карысць створанай сістэме.

*(Заканчэнне на 6-й стар.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 СНЕЖНЯ 2015 г.

АБІТУРЫЕНТ-2017

## На адзін шанц больш

З 2017 года абітурыенты могуць здаваць тэсты па чатырох прадметах ЦТ замест трох. Чацвёрты тэст будзе неабавязковы. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра адукацыі **Вадзім Богуш.**

Нагадаем, што залічэнне ў ВНУ праводзіцца паводле вынікаў трох тэстаў, сярод якіх абавязкова павінен быць тэст па рускай або беларускай мове. Гэтак жа застанецца і ў наступным годзе. Такім чынам, абітурыентам проста даецца шанц пашырыць пералік спецыяльнасцяў, на якія яны могуць паступаць.

Акрамя таго, Міністэрства адукацыі мае намер зрабіць вынікі ЦТ сапраўднымі на працягу двух гадоў. Але пакуль адпаведнае рашэнне не прынята.

ДАРЭЧЫ

Сёлета абітурыенты паказалі больш высокія вынікі ЦТ. 100 балаў набралі 277 чалавек па 9 прадметах: па матэматыцы – 89, рускай мове – 83, грамадазнаўстве – 29, англійскай мове – 23, хіміі – 21, беларускай мове – 18, фізіцы – 7, біялогіі – 5, гісторыі Беларусі – 2. 11 абітурыентаў атрымалі 100 балаў па двух вучэбных прадметах. У 2014 годзе такіх было ўсяго трое.

ЧУЛІ?

## Дайшла чарга і да культуры

Міністэрства культуры Беларусі выступіла з ініцыятывай, каб 2016 год быў абвешчаны ў Беларусі Годам культуры.

Пра гэта паведаміў міністр **Барыс Святлоў** на семінары для ідэолагаў прадпрыемстваў сталіцы.

Нагадаем, што зараз мы жывём у Год моладзі. 2014 год быў у Беларусі Годам гасціннасці, 2013-ы – Годам беражлівасці.

МАЗАІКА

## Без грошай

*Футбольны клуб «Дынама-Брэст» выставіў на продаж нерухомую маёмасць.*

Як вядома, ён не першы год перажывае фінансавыя цяжкасці. На сайце "Белаграпрамбанка" змешчана паведамленне пра продаж адным лотам за 13 млрд 395 млн 243 тысячы 39 рублёў «аб'екта нерухомай маёмасці», які складаецца з двух будынкаў, каналізацыйнай сеткі, двух цагляных платоў, металічнай брамы ды іншага.

Мяркуецца, што рэалізацыя гэтай маёмасці дапаможа клубу разлічыцца з даўгамі.

## Сербскі футбаліст застаецца ў БАТЭ

*Няманья Мілунавіч працягнуў кантракт з БАТЭ.*

Пра гэта паведамляе прэс-служба футбольнага клуба. Аднак дэталі кантракта не разгалошваюцца.

Сербскі футбаліст нядаўна быў прызнаны лепшым абаронцам чэмпіянату Беларусі 2015 года. Гэта быў яго першы сезон у складзе барысаўчан. Мілунавіч хутка заваяваў месца ў асноўным складзе каманды і гуляў надзейна.

Нагадаем, менавіта серб забіў першы гол БАТЭ ў сёлетнім групавым раўндзе Лігі чэмпіёнаў. Агулам ён згуляў за барысаўчан 42 матчы, забіў 3 галы і зрабіў выніковую перадачу.

## Беларускія гандбалісты рыхтуюцца да чэмпіянату Еўропы

У спісе зборнай – 28 гульцоў. З іх трэба выбраць 16 чалавек, якія трапяць у выніковую заяўку для паездкі на топ-турнір.

Фінальная частка чэмпіянату Еўропы адбудзецца ў студзені 2016 года ў Польшчы. Беларуская зборная будзе выступаць у групе «В» у Катавіцэ і згуляе 15 студзеня з Харватыяй, 17-га – з Ісландыяй, 19-га – з Нарвегіяй.

Перад чэмпіянатам Еўропы зборная Беларусі згуляе ў двух турнірах. 27–29 снежня каманду Юрыя Шаўцова чакае Кубак Рыжскай думы, які пройдзе ў сталіцы Латвіі. Сапернікамі беларускай зборнай стануць Латвія, Егіпет і Расія. А 8–10 студзеня Беларусь згуляе ў калядным турніры ў Маскве. Яе саппернікі – Аргенціна, Галандыя і Расія, паведамляе БелаПАН.

ПОСТАЦІ



# Васількове поле паэта

*Ліст у мінулае*

*Дарагі, незабыўны Міхась Восіпавіч!*
*110 гадоў мінула з дня Вашага нараджэння.*
*Ваша нескароная песня жыве ў сэрцах тых беларусаў, хто не забыў сваё імя.*
*За свабоду і волю Бацькаўшчыны Вы змагаліся ўсё сваё жыццё.*
*Вы – наша памяць, наша павага, наш нацыянальны гонар.*
*Я лічу сябе шчаслівай адтаго, што мела магчымасць сустракаць Вас на вуліцах нашага Гродна і на розных літаратурных імпрэзах.*

### Даведка

*Міхась Восіпавіч ВАСІЛЁК (Касцевіч) нарадзіўся 14 лістапада 1905 года ў вёсцы Баброўня на Гарадзеншчыне ў сям'і лесніка. Сярэднюю адукацыю атрымаў у 1921 г. у горадзе Казлоў (Мічурынск), куды закінуў лёс яго сям'ю як бежанцаў з Беларусі падчас Першай сусветнай вайны.*

*У 1922 г. вярнуўся на радзіму, уступіў у Беларускую сялянска-рабочую Грамаду, ствараў гурткі Таварыства беларускай школы. За ўдзел у рэвалюцыйным руху польскія ўлады неаднаразова кідалі яго ў турму.*

*Малады паэт друкуецца ў беларускіх і віленскіх выдавецтвах "Народная справа", "Наша праўда", "Маланка" і іншых. У гэты час Міхась Васілёк (такі псеўданім ён узяў) пасябраваў з таленавітымі творцамі Заходняй Беларусі, якія словам і справай змагаліся за волю роднай зямлі, – Аляксеем Карпюком, Валянцінам Таўлаем, Максімам Танкам. Асабліва блізкія былі яны з А.Карпюком, які высока цаніў талент сябра, пазней дапамагаў друкаваць яго вершаваныя зборнікі, а потым многа зрабіў дзеля ўвекавечання яго памяці. У 1929 г. Рыгор Шырма выдаў у Вільні зборнік М.Васілька "Шум баравы", а ў 1937-м – зборнік "З сялянскіх ніў".*

*У 1939 г., з пачаткам Другой сусветнай вайны, паэт быў мабілізаваны ў Польскае войска. У час баёў з гітлераўскімі нападнікамі трапіў у нямецкі палон, там сустрэўся з Янкам Брылём. У лагеры арганізаваў рух за вяртанне на Радзіму. У 1941-м уцёк з палону, наладзіў сувязь з антыфашысцкім падполлем, кіраваў Скідзельскім падпольным камітэтам. Выступаў у партызанскім друку пад псеўданімам Язэп Гром. У 1950 г. убачыла свет кніга М.Васілька "Выбраныя вершы", у 1955-м – зборнік "Выбраныя творы".*

*Яму было толькі 55, калі перастала біцца яго сэрца – сэрца патрыёта. Крыху пазней з'явіліся ў кнігарнях зборы яго твораў "Зоры над Нёманам" і "Вершы".*

### Той даўні юбілей…

14 лістапада далёкага ўжо 1955 года Міхась Васілёк разам з сям'ёй і сябрамі адзначаў сваё 50-годдзе. Як зараз, помніцца той дзень – ясны, сонечны, без хмурынкі. Сонечным быў і сам Міхась Восіпавіч. Віноўнік урачыстасці паспяваў прымаць гасцей і адначасна завіхацца на кухні, дапамагаючы жонцы сачыць, каб не дай бог не падгарэў прыгожы пірог… Запрасіў усіх у гасцёўню, дзе было надзіва ўтульна і прыгожа. Стол засланы абрусам з беларускім арнаментам, які вышывала Марыя Іванаўна. І стол, і падсвечнікі, і сядзенні, і канапы – усё, аказваецца, зрабіў залатымі рукамі сам гаспадар.

За сталом – паважаныя ў Гродне людзі: выкладчык беларускай мовы і літаратуры тагачаснага Гродзенскага педінстытута (зараз Дзяржуніверсітэт імя Я.Купалы) Таццяна Сцяшкевіч, краязнаўца і літаратар Апанас Цыхун, паэт і выкладчык беларускай мовы Міхась Дуброўскі. Тут і студэнцкая моладзь – будучыя філолагі, гісторыкі, матэматыкі, фізікі Іван Буднік, Соня Курчэўская, Ваня Сухоцкі, Антон Нюнько, Саша Жытко і мая сястрычка, будучы вучоны-аграном Ліля Рымар. З Навагрудка павіншаваць калегу прыехаў сляпы на вочы, але відушчы душой паэт Гаўрыла Шутэнка…

Не, сабраліся яшчэ не ўсе. Нехта пастукаў у дзверы, і юбіляр ветла сустрэў яшчэ аднаго госця.

– Знаёмцеся, гэта Аляксей Дземідовіч, паэт, – прадставіў яго гаспадар. – Аляксей, мо пазнаёміш нас з новымі сваімі вершамі, мне яны вельмі да густу?

Той не стаў аднеквацца. І пачалася сяброўская бяседа не звыклым юбілейным славаслоўем, а паэтычнымі радкамі маладога сябра Міхася Восіпавіча. Аказваецца, Дземідовіч праходзіў вайсковую службу ў Гродне і завітаў аднойчы ў "Гродненскую правду", дзе Міхась Васілёк працаваў літкансультантам. Там яны пазнаёміліся. Дзякуючы старэйшаму калегу, яго творчаму апякунству творы Аляксея пачалі з'яўляцца ў друку, выйшаў і яго зборнік "Калі шчырым быць". Так што пад крылом Міхася Восіпавіча вырас яшчэ адзін паэт.


Сям'я паэта.

…Усхваляваны Аляксей не паспеў сесці, як з-за стала паднялася студэнтка Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута ужо згаданая Ліля Рымар. Прачытала свой верш "Нёманскі вальс":

*Нёманскі вальс – песня муроў,*
*Радасць і смутак вякоў.*
*Чуцен ў цішы цокат капыт,*
*Посвіст і кліч ваяроў…*

Відаць, верш спадабаўся юбіляру, ён па-бацькоўску абняў і расцалаваў таленавітую беларусачку. Дарэчы, паэт быў знаёмы з усімі сябрамі творчага літаратурнага аб'яднання ў сельгасінстытуце, рупна дбаў пра маладое творчае пакаленне. Імкнуўся ўбачыць у кожным іскру даравітасці, дапамагчы раздзьмуць яе. І не бяды, што не ўсе потым стануць прафесійнымі паэтамі – галоўнае, каб рабілася больш чуйнай, трапяткой чалавечая душа.

Помню, як тады Соня Курчэўская прысвяціла свае ўзнёслыя радкі юбіляру і ягонай цудоўнай жоначцы-прыгажуні Марыі Іванаўне, звязаных верным каханнем на ўсё жыццё. Яе святочная сукенка была вышыта сінімі васількамі...

Той памятны вечар ахінуў усіх, знаёмых і незнаёмых між сабою і сабраных у гэтым утульным доме, сардэчнай цеплынёй, увагай, непадробнай цікавасцю да кожнага. Не толькі сам паэт з яго незвычайнай сціпласцю і нелюбоўю да пышных слоў на свой адрас, але і ўсе госці адчувалі сябе імяніннікамі.

Гледзячы на гэтага чалавека, можна было падумаць, што ён усё жыццё ступае па ружах, не зведаў ні гора, ні засмучэння. Ды насамрэч колькі пакручастых, нялёгкіх дарог і выпрабаванняў у змагарстве за самае дарагое прайшоў паэт, які ўзяў сваім псеўданімам назву простай, але прыгожай кветачкі з роднага жытнёвага поля. Ён паклаў творчасць і жыццё на алтар Беларусі.

### Без яго

На жаль, 60-годдзе з дня нараджэння Міхася Восіпавіча адзначалі ўжо без яго: за пяць год да гэтага паэта не стала. Літаратурны вечар зладзіла настаўніца беларускай літаратуры Вольга Піліпаўна Кулай. Яна прачытала верш Міхася Васілька "Першая вясна", прысвечаны ім сыну Ярыку (так называлі ў сям'і Яраслава):

*Вочы цёмна-сінія весела смяяліся,*
*З сонейкам дзяціныя рукі абнімаліся…*

Усе ведалі, як паэт любіў сына. Той ува многім унаследаваў творчую натуру бацькі, хаця жыццё звязаў з дакладнымі навукамі. Аднакласнік Ярыка – зараз педагог, краязнаўца, пісьменнік Віктар Саяпін, аўтар 30 кніг, мноства артыкулаў, пяці дакументальных фільмаў на гістарычныя тэмы, – згадвае:

– Мы з Яраславам разам у школе вучыліся, разам скончылі Гродзенскі педагагічны інстытут. Яраслаў атрымаў дыплом фізіка, я – матэматыка. Але навуковыя заняткі не перашкаджалі нам захапляцца мастацтвам, актыўна ўдзельнічаць у школьнай і студэнцкай самадзейнасці, спрабаваць сябе на драматычный сцэне.

Віктар Юр'евіч распавядае, якой прыцягальнай для моладзі была хата паэта Міхася Васілька і пры яго жыцці, і калі яго не стала. Акружаная цудоўным садам, выгадаваным самім гаспадаром, яна сталася любімым месцам сустрэч і сяброў Яраслава. У летнія вечары тут да позняй ночы гучалі беларускія вершы, чуліся песні Уладзіміра Высоцкага – і з магнітафона, і пад гітару, бо амаль усе хлопцы ўмелі іграць.

Хата, у якой жыў Міхась Васілёк з сям'ёй.

…Прыйшоў час, і хату, дзе жыла дружная сям'я Васількоў-Касцевічаў, зруйнавалі. Ім далі новае жытло. Аднагодкі Яраслава і сюды часта наведваліся, стараліся чым маглі падсабіць Марыі Іванаўне, якая і пасля смерці мужа засталася для маладых настаўнікам і сябрам.

– Толькі пераступіш парог гэтай кватэры – і, як і раней, адчуваеш непадробную сардэчнасць, як было пры Міхасю Восіпавічу, – успамінае Віктар Саяпін. – Здавалася, што вось-вось выйдзе сам гаспадар і пачуецца яго радасны голас: "Заходзь, заходзь, браток даражэнькі, родненькі!" Гэты голас гучыць для нас праз гады і гады ў яго вершах.

Не забываў блізкага, дарагога сэрцу чалавека і Андрэй Андрэевіч Юшкевіч з вёскі Галавачы, што недалёк ад Баброўні. Педагог, краязнаўца, відэалетапісец, фотааматар, журналіст зрабіў фільм пра жыццё і творчасць свайго сябра, падарыў яго гістарычнаму музею Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы. Па сённяшні дзень Адрэй Андрэевіч – нястомны змагар за родную мову, літаратуру, культуру, шчыры аматар беларускай паэзіі.

### Запавет

Міхась Васілёк прыйшоў у паэзію ў цяжкі, зломны час. Але гэты час загартаваў, зрабіў нескароным колішняга вясковага хлопца з Божым дарам у душы. Адны яго ў турмы саджалі, другія доўга не давалі друкавацца, трэція пабойваліся яго вострага пяра. А ён пісаў, пісаў і, нават перажыўшы крушэнне юначых ілюзій аб тым, што ў Савецкай Беларусі рай для чалавека працы, верыў у тое, у што і заўжды: яго родная бацькоўская зямля будзе шчаслівай і свабоднай. І дзеля гэтага не шкада аддаць жыццё.

Такім, дарэчы, быў і родны дзядзька Міхася Васілька-Касцевіча Макар Мацвеевіч Касцевіч, вядомы як паэт Макар КРАЎЦОЎ. Той самы, якому належыць усім вядомы верш "Ваяцкі марш", які пад назвай "Мы выйдзем шчыльнымі радамі…" стаў гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі і гучаў далей падчас Слуцкага Збройнага Чыну. Макар Краўцоў быў актыўным яго ўдзельнікам. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР паэта-патрыёта, як і аўтара музыкі – кампазітара Уладзіміра Тэраўскага, напаткаў трагічны лёс. Першы быў закатаваны ў 1939 годзе НКУС у Беластоцкай турме, другі расстраляны яшчэ раней – у 1938-м – у Мінску.

Але вернемся да таго сумнага дня, калі жыхары Гродна і прыезджыя з многіх раёнаў вобласці развітваліся 3 верасня 1960 года з паэтам Міхасём Васільком. Тады ішоў праліўны дождж – быццам слёзы неба, якое разам з мноствам людзей праводзіла ў апошнюю дарогу творцу роднага слова.

Па вуліцы Карбышава, 15 у Гродне, дзе жыў апошнім часам паэт, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Вуліца імя Васілька ёсць і ў Скідзелі. Пры ўездзе ў вёску Баброўня стаіць памятны знак-валун, на якім надпіс: "Славутыя сыны Баброўні. Макар Краўцоў, Міхась Васілёк". Кожнай вясною, пралятаючы над гэтай мясцінай, буслы курлычуць, доўга кружацца, нібыта чакаюць: вось-вось выйдзе на роднае поле сын гэтай зямлі, усміхнецца, павіншуе з вясной і пакажа гняздо, якое ён змайстраваў да іх прылёту… Жыве Беларусь!

У літаратурна-краязнаўчым музеі Скідзельскага сельскагаспадарчага музея ўсталявана экспазіцыя аб жыцці і творчасці Міхася Васілька. Тут знаходзяцца ўсе зборнікі паэта, сабраны ўспаміны аб ім, надрукаваныя ў часопісах і кнігах. Высокая духоўнасць, адданасць Бацькаўшчыне, што вырастае ў паэзіі Васілька з сялянскага грунту, з долі народа ў радасці і ў горы, пранізвае кожны радок паэта, які шчыра казаў – і даказаў: "Не для славы імкнуся…" Таму і не старэюць гэтыя радкі.

Беларусы, дарагія, прыслухайцеся: нехта стукае ў вашы вокны, у замкнёныя дзверы, настойліва стукае… Гэта ж душа Міхася Васілька. Яна не можа супакоіцца нават Там і Адтуль звяртаецца да нас з запаветам: "Людзі, хто ж вы? Падайце голас… Мо спіцё? Пара прачнуцца, браткі даражэнькія, родныя вы мае! Беларусь зараз губляе саму сябе разам са сваёй мовай і душой. А як жа жыць без душы? Без мовы няма Радзімы!"

Аб гэтым якраз б'юць у званы і выдатныя паэты сучаснасці: Ніл Гілевіч, Яўген Гучок, Вольга Іпатава, Юрка Голуб, Іван Буднік, прафесары Аляксей Пяткевіч і Леанід Лыч і многія іншыя. Як не прыслухацца да іх, не ратаваць сябе і дзетак сваіх, пакуль не позна?

І многія чуюць яго. Паэзія Міхася Васілька вытрымала экзамен на сталасць, заняла пачэсную нішу ў сучаснай беларускай літаратуры. З яго твораў зроблены пераклады на рускую, украінскую, літоўскую, польскую, мангольскую і іншыя мовы. Яго паэзія, яго васільковае поле зарадзіліся ў народзе і народу вярнуліся. Зборнік М.Васілька "Шум баравы" знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. А ягоныя словы "Ніколі не загоняць, мой народ, цябе ў магілу" – эпіграф да ўсёй яго творчасці.

На заканчэнне прапаную толькі па адным творы двух блізкіх па крыві і духу паэтаў: ранні верш "Не пытай" змагара за народнае шчасце Міхася Васілька і "Мы выйдзем шчыльнымі радамі…" такога ж гарачага патрыёта Макара Краўцова. Здзяйсненне іх мар – наперадзе…

**Роза РЫМАР.**

*Гродна.*

Міхась ВАСІЛЁК

### Не пытай

*Калі ў сэрцы зіма*
*І прасвету няма,*
*І пакуль маім грудзям балесна,*
*Браце мой, не пытай –*
*Я ад плуга ратай,*
*Не дзівіся, што сумныя песні.*
*Не паэт я – о не…*
*Нарадзіла мяне,*
*Маю песню пакута-нядоля,*
*Я – ўсяго васілёк,*
*Лёс, відаць, не знарок*
*Мяне кінуў на сумнае поле.*
*Мяне сонца пячэ,*
*Дождж асенні сячэ,*
*І пяскамі вятры засыпаюць,*
*Але верыцца мне,*
*Што няволя міне,*
*Прыйдзе шчасця пара залатая.*

Макар КРАЎЦОЎ

### Мы выйдзем шчыльнымі радамі…

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны свой прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*

*Няхай жыве мгутны, смелы,*
*Наш беларускі вольны дух.*
*Штандар наш*
*бел-чырвона-белы,*
*Пакрый сабой народны рух.*

*На бой! За шчасце і за волю*
*Народа слаўнага свайго!*
*Браты, цярпелі мы даволі,*
*На бой – усе да аднаго!*

*Імя і сілу беларуса*
*Няхай пачуе й ўбачыць той,*
*Хто смее нам нясці прымусы*
*І першы выкліча на бой.*

*Браты, да шчасця мы падходзім,*
*Хай гром грыміць яшчэ мацней!*
*Ў крывавых муках мы народзім*
*Жыццё Рэспублікі сваей.*

КАРУПЦЫЯ



## Экс-намесніца дырэктара ААТ «Александрыйскае» заплаціла 200 тысяч долараў, каб трапіць пад хатні арышт

Следчы камітэт расследуе крымінальную справу ў дачыненні да былой намесніцы дырэктара па маркетынгу ААТ «Александрыйскае» (Шклоўскі раён), якая абвінавачваецца ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў і службовай халатнасці.

Кіраўніцы было выстаўлена абвінавачанне ў тым, што ў 2012–2013 гадах яна не вяла кантроль за аплатай тавараў па заключаных дагаворах, а таксама давала незаконныя ўказанні прадаваць мяса расійскім фірмам, якія мелі дэбіторскую запазычанасць перад «Александрыйскім» за раней атрыманую прадукцыю. Следчыя налічылі нанесеную шкоду гаспадарцы памерам 3,6 мільярда рублёў (200 тысяч долараў). Намесніцу дырэктара пасадзілі ў ізалятар, аднак яна кампенсавала 200 тысяч долараў і пераведзена пад хатні арышт.

І вось цяпер пытанне: адкуль жанчына ўзяла такія грошы? Няўжо ў "Александрыйскім" заробкі дазваляюць мець у запасе такія сумы?

SOS!

## Пад пагрозай знікнення

*Сёння ў Беларусі пад пагрозай знікнення знаходзіцца амаль трэць відаў дзікіх жывёл. Пра гэта паведаміў намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі **Ігар Качаноўскі.** Прычына – змяненне экасістэмы: асушэнне балот, вырубка лясоў і гэтак далей.*

Аналагічная праблема востра стаіць і перад усім светам. І калі нічога не рабіць, то на глабальным узроўні знікнуць 13% усіх відаў птушак, 41% амфібій, 26% млекакормячых… Таму на ўзроўні ААН прынята Канвенцыя аб біяразнастайнасці. З 1 студзеня 2016 года ў Беларусі ўступаюць у сілу дакументы, прынятыя дзеля выканання гэтай Канвенцыі: абноўленая Стратэгія па захаванні і ўстойлівым выкарыстанні біяразнастайнасці і План дзеянняў на 2016–2020 гады. Днямі яны былі прэзентаваны экспертам.

**Аляксандр Казулін,** загадчык сектара міжнароднага супрацоўніцтва і навуковага суправаджэння прыродаахоўных канвенцый Навукова-практычнага цэнтра па біярэсурсах НАН РБ, ідэйны натхняльнік каманды, якая стварыла дакументы, у цэлым ахарактарызаваў стан біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці Беларусі.

Паводле яго слоў, у Беларусі біяразнастайнасць залежыць ад стану натуральных экасістэм, якія займаюць каля 50% тэрыторыі краіны. Гэта пераважна лясы, і іх стан эксперт лічыць найбольш устойлівымі. Аднак трывогу навукоўцаў выклікае сітуацыя са спелымі шыракалісцевымі лясамі, якіх становіцца ўсё менш (дубровы, ясеневыя лясы, клёнавыя лясы).

Балотаў у Беларусі значна менш, чым лясоў, і яны менай устойлівыя. Зараз водна-балотныя комплексы займаюць 863.000 га, там жывуць больш за 40% чырванакніжных відаў птушак. Аднак сітуацыя з аховай балот, на думку эксперта, абнадзейвае. Большая іх частка (540.000 га) цяпер знаходзіцца ў складзе асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый. Але для рэальнага іх захавання неабходна ўмяшанне чалавека, паколькі нізінныя балоты зарастаюць чаротам, а верхавыя – лясамі.

Колькасць водных экасістэм Аляксандр Казулін ацэньвае як досыць вялікую. І практычна на ўсіх вадаёмах краіны ёсць негатыўная тэндэнцыя да так званай антрапагеннай эўтрафікацыі. Гэта цвіценне вады з-за арганічнага забруджвання.

Пойменныя лугі сёння знаходзяцца пад асаблівай пагрозай. Яны з'яўляюцца ўнікальнымі экасістэмамі, асабліва такія, як на Прыпяці, там, дзе захавалася іх традыцыйнае выкарыстанне: касьба, выпас жывёлы і г.д. Але ў апошнія 10–15 гадоў лугі перасталі выкошваць, перасталі пасвіць там кароў, таму яны проста зарастаюць.

А калі такія лугі затапляе пры разліве рэк, уся раслінная маса на іх пачынае падгніваць, і паступова велізарныя травяністыя прасторы «ператвараюцца ў пустыню", заявіў Аляксандр Казулін. Паводле яго слоў, з гэтым фактарам ускосна звязана зніжэнне рыбных запасаў у рацэ Прыпяць.

Затое сярод птушак у Беларусі з'явіўся шэраг новых відаў – як паўднёвых, так і паўночных. Напрыклад, распаўсюдзілася белая чапля, і яна выцясняе шэрую. Магчыма, гэта звязана са змяненнямі клімату.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО…

## Впервые в новом тысячелетии полнолуние совпадет с Рождеством

2015 год станет особенным для верующих, празднующих Рождество по григорианскому календарю, поскольку верующие смогут не только отпраздновать Рождество, но и наблюдать полнолуние.

Полная фаза Луны выпадает на ночь с 24 на 25 декабря. Последний раз такое совпадение было в 1977-м, а повториться сможет лишь в 2034 году.

Жители Великобритании смогут наблюдать полнолуние 24 декабря, а вот на территории США это произойдет 25 декабря. В Беларуси полная Луна будет 25 декабря в 11.13.

НАВАГОДНІ КОМПАС

## Хочаце падняць святочны настрой?

### Вас чакаюць у Ледзяным пакоі

**Па 15 студзеня** ў мінскім гандлёвым цэнтры ALL працуе першы і адзіны ў Беларусі Ледзяны пакой – сапраўдны "партал", дзе ўсе прадметы зроблены з лёду. Гасцей Ледзянога пакоя чакаюць конкурсы і прызы ад арганізатараў: можна нават выйграць падарожжа ў Дыснейлэнд! Уваход свабодны.

### На сусветныя прэм'еры

У Мінску стартуюць "кінасерады" – бюджэтны фармат прагляду сусветных прэм'ер. Новы кінатэатр "Silver Screen" у гандлёва-забаўляльным цэнтры "Арэна-Сіці" па серадах запрашае аматараў кіно на сеансы за 30.000 рублёў. Квіткі ўжо можна набыць на сайце альбо ў касах кінатэатра.

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

# Дар терпеливому сердцу



*Единственная девушка в «WZ-Orkiestra» с глазами, как большие спелые вишни, Ксюша Минченко, которая проникновенно пела о том, как цветет сакура, исчезла со сцены несколько лет назад. Сегодня Ксения носит фамилию мужа Владимира Копьева. У них трое детей. Владимир работает в Свято-Воскресенском приходе Минска. А со свекровью молодой певице необыкновенно повезло – это скромная и тактичная, вдохновленная белорусской стихией, всеми любимая народная артистка Беларуси* ***Зинаида Бондаренко.***



Ксения родилась в Минске. Ее мама, энергетик по профессии, родом из Копыля, отец – из деревни Кулаковщина, окончил Московский энергетический институт. В молодости они сильно увлекались спортом – теннисом, лыжами, самбо, баскетболом.

Отец играет на баяне и гитаре, очень любит петь. Мама в школе училась играть на фортепиано. Маленькая Ксюша становилась на табуреточку и подпевала родителям. Занималась в коллективе «Зорачка», потом – в школе с музыкальным уклоном, играла на скрипке. На четвертом курсе Института культуры Ксения пришла преподавать пение в родную «Зорачку». Ей нравилось посвящать время детям, 12 лет работы с ними дали хороший опыт. Своей «сэкондрэ мадрэ» она называла Аллу Михайловну Новицкую, педагога по вокалу, фольклору и режиссуре. Ксения участвовала в совместных проектах с Игорем Горбачевским, Анастасией Хмель, Леонидом Павленком и другими музыкантами.

Был еще один интересный проект с загадочным белорусским названием «Кумалёнтрэ». Ксения, Татьяна, Сергей и Марина играли белорусские песни в обработках.

Выступления с «WZ-Orkiestra» начались с поездки в Польшу, а в скором времени и в Норвегию.

Сначала в оркестре Дмитрия Войтюшкевича партию скрипки исполнял Алесь Пузыня. Он уехал в Америку, а вместо него пригласили Ксению. Она объехала с артистами всю Польшу. Девушек в мужские группы прежде предпочитали не брать. В «Песнярах» и «Палацы» девчат не было, чтобы личные отношения не мешали творчеству. Поэтому Ксения вспоминает, что держалась на концертах и в поездках, «как боец с пулеметом». Ей нравилось петь с музыкантами «WZ-Orkiestra» «Полонез» Огинского, повсюду, на свадьбах и крестинах, слушатели прочувствованно вставали.

Однолюб по натуре, Ксения предпочитала блюсти себя в строгости и не доверяла ничему легкомысленному. Она искала истину, присматривалась к разным религиозным конфессиям. Пока не попала во Львове в православную церковь XV века в Шевченковском Гае, где ощутила, что истина – именно здесь.

*«Когда человек нашел большой алмаз, то он не будет размениваться на мелкие побрякушки. Благодать Божия – наивысшая ценность в жизни. Когда у монахов на Афоне спрашивают: «Как дела, как вы живете?" – они говорят: "Слава Богу за все!" У каждого свой путь. У кого-то есть семья, кто-то идет один. Не надо переживать на этот счет, все, что надо, – придет. Главное – воспринять все с любовью, мужеством и честностью»,* – говорила девушка в длинной шерстяной юбке со скрипкой в руках зимой 2009 года, когда мы готовили к печати книгу «Беларускае слова ад спеву».

И вот мы снова встретились с Ксенией. Она щедро вознаграждена за веру и выдержку. Сейчас она мама четырехлетней Машеньки и двойняшек Афанасия и Тихона, которым скоро исполнится два годика.

**– Многие помнят вас по концертным программам и дискам, интересуются: где Ксюша?**

– Женщины стоят перед выбором: продолжать карьеру, нанимать няню или быть с детьми. Я думаю, что в начальном периоде детям нужна именно мама. Тогда они будут психологически устойчивыми, не будет детских страхов. Зная, что мама рядом, они будут увереннее действовать. Поэтому я буду с ними подольше.

**– Расскажите, пожалуйста, как вы встретились с Владимиром? Он нашел вас или вы его?**

– Мы давно работали вместе в Национальном центре, он – в театре, я – в «Зорцы», но проходили мимо друг друга. Я считаю чудом то, что Господь нас свел.

Владимир был одним из руководителей театрального коллектива, педагогом театра, со временем он пошел работать в храм, сейчас он – старший алтарник. Он не имеет сана, но служит в храме. Он учится в Православном Свято-Тихоновском Московском университете дистанционно, получает серьезное богословское образование. Когда сдает предмет, ему надо много заниматься, а детишки шумят.

Мои родители переживали, что я в 30 лет еще не замужем. Что ж, я пойду пускать стрелы, чтобы найти женихов? Конечно же нет!

И вот в 32 я вышла замуж, Владимир старше меня на 7 лет. Первой родилась Маша, а за ней, когда мне было 35 лет, родились малыши Афанасий и Тихон. Поэтому я говорю: девчата, не унывайте и в 30 лет, доверьтесь Богу, Он все устроит!

Алексей Пальчонок, регент церковного хора, работал в нашем центре. Я думала: раз Господь дал мне такой голос, надо послужить Ему – и стала петь на клиросе в Свято-Воскресенском храме. Алексей научил меня всей службе, я разучила партии всех голосов и могу заменить любой из них (альт, сопрано, тенор и даже бас). Три раза в неделю я пела на Божественной Литургии. Потом я преподавала пение в воскресной школе. Бабушка помогает нам, присматривает за детьми, и я могу попеть в будний день.

**– Ваша новая фамилия – Копьева – звучит сильно!**

– Когда женщина любит мужа и доверяет ему, то она, конечно, переходит на его фамилию и считает, что она с ним – одно целое. Даже если тебе очень нравится твоя фамилия, эта жертва приемлема. Другое дело – Зинаида Александровна: у нее к замужеству уже было всенародное признание, она была известным человеком и не хотела разрушать принятый всеми телевизионный образ, хотя впоследствии и сожалела об этом.

Володя рос в Минске. Однажды он показывал мне улицы своего детства. Он ходил в храм с молодости. Владимир окончил филологический факультет БГУ. В театре он вел литературный кружок. Моя руководительница Алла Михайловна Новицкая (хочется сказать ей большое спасибо!), заметив, что я все время одна, приложила свою руку и обратила мое внимание на Володю – рядом есть хороший человек! И в то же время она подсказала Володе: взгляни на нашу Ксюшу…

Он пригласил меня попеть его песни. В то время у него была своя небольшая группа, недоставало лишь скрипки. Я подыграла на одном концерте, затем – на другом. Пообщавшись, мы вскоре ощутили душевное родство. Сначала это было общение близких душ. В таком возрасте испытываешь не романтическое увлечение, а больше видишь человека духовно. Господь сложил эту ситуацию для нас даже в мелких обстоятельствах неожиданных встреч.

После одного выступления Зинаида Александровна спросила: «Ой, а что это за девочка так хорошо пела?»

**– Но у вас ведь к тому времени было за плечами столько гастрольных выступлений, дисков, записанных с «WZ-Orkiestra»!..**

– Кто-то об этом знал, кто-то нет. Я спела, и так все сложилось.

**– Вы участвовали в проекте для детей "Мой сябра анёлак". Теперь ваши дети слушают ваши диски? Помню, как чудесно вы пели песню на стихи Артема Ковалевского:**

***Захацеў анёлак Рома***
***Музыкантам стаць вядомым,***
***Каб на скрыпцы і валынцы***
***На цымбалах і катрынцы,***
***На пузатым барабане,***
***На тамтаме і баяне,***
***Кожнаму зайграць вясёла***
***У мястэчках, вёсках, сёлах.***

– У меня была мысль сделать подборку из моих записей, был еще мой ранний диск "Ксюша".

**– Как вы взаимодействуете со свекровью?**

– Зинаида Александровна не щадит себя, она много трудится и всем хочет помочь, во всем – очень интеллигентная и терпеливая. Она счастлива, ведь они с мужем давно ждали внуков. Геннадий Николаевич радуется, глядя на малышей, как они ползают у них по дивану, бегают по комнате. Он вырезает множество картинок из журналов и газет и наклеивает их в альбом для Маши.

**– Слушают ли дети белорусские песни? Знакомите ли вы их с классикой?**

– Маша любит "Калыханку" именно Геннадия Буравкина, хотя есть "Спи, моя радость, усни" и другие. Она просила петь ее несколько раз подряд и выучила наизусть. Мы нашли в интернете и скачали ту запись, которую сами слушали в детстве, когда еще Зинаида Александровна вела эту передачу. Все это срослось так, что Маша любит именно эту калыханку. Когда она подрастет, мы обязательно ей расскажем про все бабушкины передачи.

Маша любит детские песенки из старых советских мультиков и кинофильмов, сами мы играем иногда на гитаре и поем.

Когда дети волновались, я ставила им хоры Толгского и Горнинского монастырей, и дети могли успокоиться и заснуть. Когда они сильно возбуждены, мелодии женского монастыря действуют на них благотворно.

Детские песни их заводят и бодрят. Маша танцует и придумывает свои фигуры. Я составила список спокойных произведений Рахманинова, Чайковского, Шопена и других классических и джазовых композиторов, дети хорошо их воспринимают. Мы с Володей не слушаем попсу. Тяжелые для психики ребенка вещи у нас не звучат.

**– Когда подрастут дети, вы, возможно, создадите семейный коллектив в церкви?**

– Мы не принуждаем детей. Мы водим детей в храм, но хотим, чтобы они сами этого хотели. Им свойственно постоять немного, а потом побегать и порезвиться на улице. Я спрашиваю у Машеньки: пойдем в храм? Она говорит: пойдем!

**Элла ДВИНСКАЯ.**

**Фото из семейного архива Копьевых.**

ПАМЯТЬ

# Легенда №3



С известным белорусским футболистом Юрием Курнениным я познакомился в 1985 году накануне призыва в армию. Заглянул на стадион «Динамо», совершенно случайно встретил именитого спортсмена. (Возможно, он вспомнил, как в 1982 году, когда «Динамо» стало чемпионом, мы с моей девушкой дважды подарили ему перед одним из матчей цветы – символ признательности болельщиков.) Курненин взглянул на меня, пожелал удачи в армии, подписал на память свою фотографию.

Позже писал мне письма в Венгрию, где я служил. Вероятно, некоторые усомнятся в том, что Курненину была свойственна сентиментальность, но, как ни странно, это так. На службе и позже я внимательно следил за игрой своего кумира…

Симпатией к этому человеку и футболисту я, наверное, проникся после невероятного матча двух «Динамо» в Киеве в «золотом» для нашей команды 1982 году. Юра тогда забил гол, после которого наши футболисты просто «порвали» украинских одноклубников.

Курненин пусть и играл на позиции левого защитника, но никогда не забывал о нападении, в котором проявлял себя неплохо еще с детства. Пусть нечасто он выходил на поле в составе московского «Динамо» по причинам невероятной конкуренции в своем амплуа, но даже за это время умудрялся забивать.

Переезд Юрия в Минск не был спонтанным. Не знаю, кто из тренеров сделал из него защитника, но от этого советский футбол только выиграл. Потому как играл Курненин не только за минское «Динамо», но и за различные сборные СССР. Причем довольно успешно. Одно время был капитаном олимпийской команды, которая прошла сито квалификации в Лос-Анджелесе в 1984 году. Но не судьба была сыграть там. В дело вмешалась политика. Как не судьба была из-за тренерской чехарды сыграть и в национальной сборной на чемпионате мира в Мексике в 1986 году.

Впрочем, эти факты мало повлияли на самобытный футбольный почерк Курненина. Начиная с 1982 года он регулярно был в списке 33 лучших игроков чемпионата СССР, с завидным постоянством уступая в своей номинации лишь киевлянину А.Демьяненко.

Помню 1982 год. Образцово-показательный гол, забитый Юрием в ворота харьковского «Металлиста». Защитник украинцев встретил Курненина хоккейным приемом, через бедро. Юра несколько раз перекрутился в воздухе, но мячом владели минчане, и судья матч не остановил. А через несколько секунд Юрий Курненин метров с 30–35 так «влупил» по воротам Юрия Сивухи, что вратарь даже не дернулся.

А три мяча алма-атинскому «Кайрату»? Это был триумф игрока-защитника!

У Курненина было «золото» союзного чемпионата, признание и любовь болельщиков, авторитетное резюме Эдуарда Малофеева в фильме «В атаке вся команда»: «К Юре у меня вопросов по игре нет и никогда не было».

Помню также, как первый матч в Кубке европейских чемпионов «Динамо» играло на родном стадионе против швейцарского «Гросхопперса». Единственный победный гол-красавец забил именно Юрий Курненин. В еженедельной телепередаче «Футбольное обозрение» ведущий Евгений Маслаченко тогда сказал: «Эх, жаль не разыгрывается приз на лучший гол года. Этот бы выиграл».

Второй незаурядный поворот одаренности – это артистизм поведения на поле, доведенный почти до совершенства. Нет, Курненин не был симулянтом, но ведь падать в штрафной или в непосредственной от нее близости тоже нужно уметь. Он, скажем так, имел задатки артиста с элементами хулиганства.

И на тренерской работе Юрий Курненин иногда хулиганил. Будучи начальником витебского «КИМа», как-то поспорил с одним главным тренером о турнирных перспективах коллектива. Где-то не сошлись во мнениях. В итоге для оппонента Курненина дело закончилось тумаками.

…Последний раз я встретил Курненина после его вояжа в Катар и Оман. Посидели, выпили хорошего вина. Много говорили о футболе. Через несколько месяцев Юра возглавил молодежную сборную страны. Вывел ее на чемпионат Европы, и затем были эмоции, критика, переживания… Все это сказалось на здоровье.

Всегда делавший дело от души, без фальши и лицемерия, Юрий Курненин ушел из жизни, оставив после себя образ бескомпромиссного футболиста, артиста-хулигана.

**Константин ПАВЛОВ.**

*Фото из архива автора.*

ШАХМАТЫ



## Кубок «Альбино»

В Минске состоялся восьмой Кубок по решению шахматных композиций на призы бюллетеня «Альбино». Эти соревнования берут старт с 2008 года. Нынешний Кубок оказался сильнейшим по составу за всю 40-летнюю историю очных решательских турниров в Беларуси. Среди 23 участников 11 представляли Беларусь, девять – Россию, два – Украину, один – Польшу. В борьбу вступили два международных гроссмейстера, четыре международных мастера, один мастер ФИДЕ, несколько национальных мастеров по решению. В числе наиболее именитых участников были 10-кратный чемпион мира по композиции Андрей Селиванов и ведущий российский составитель этюдов Олег Перваков (Москва), неоднократный чемпион России Анатолий Мукосеев (Тверь), многократный чемпион Украины и вице-чемпион мира 1998 года Валерий Копыл (Полтава). Из 11 белорусских решателей восемь в разное время были победителями или призерами чемпионатов страны. Кубок «Альбино» впервые носил статус одного из этапов Кубка мира по решению.

Участникам необходимо было решить 18 заданий – по три двухходовки, трехходовки, этюда, многоходовки, задачи на кооперативный и обратный мат.

Призерами соревнования на этот раз стали россияне: 1.Евгений Викторов; 2.Анатолий Мукосеев; 3.Олег Перваков. Белорус Александр Булавка, четыре раза побеждавший в Кубке, теперь оказался на девятом месте. Состоялся и традиционный детский турнир, в котором состязались воспитанники РЦОП (тренер – Юрий Муйвид).

Предлагаем читателям решить одну из двухходовок Кубка (см. диаграмму). На нее отводилось 6–7 минут.

**Белые:** Крh2, Фb2, Лf1, Лf8, Сg1, Сg8, Кd1, Кf4, пп.b7, e3, f5, g2 (12).

**Черные:** Крe4, Фa8, Сd4, Сh3, Кb8, пп.b5, c3, c6, d3, e5, e7 (11).

Присылайте решения на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru.

## Проверьте решения

Задачи А.Белого (от 17 ноября) решаются так: №1. 1.Фd6. №2. 1.g4 (2.Лh3х) Крf3 2.Лg1, 1…Крd3 2.Лh3+, 1…Фf8 2.С:g5+, 1…Лf8 2.Сc5+.

**Вадим ЖИЛКО.**



УСМІХНІЦЕСЯ!

– Дарагі, я ў краму. Табе ўзяць што-небудзь смачненькае?

– Канечне, дарагая! Толькі асцярожней – на вуліцы галалёд! Глядзі не разбі!

* * *

– У мяне арыгамі не выходзіць.

– А даўно з'еў?

* * *

– Ці згодны вы кахаць яе, аберагаць ад праблем, захапляцца ёю, пакланяцца яе мудрасці і таленту?

– Развяжыце мяне!!!

* * *

– Як справы?

– Ды ўсё цудоўна, ніякіх праблем.

– Жаніцца табе пара!

* * *

– Доктар, выпішыце мне эфектыўны сродак для пахудзення!

– Няма праблем. Я вам выпішу вугаль.

– У парашках ці таблетках?

– У мяхах. Вагоны будзеце разгружаць!

* * *

Размова на студэнцкім вяселлі:

– А чаго гэта нявеста нічога не есць, не п'е?

– А яна не скідвалася...



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.

Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15100

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.12.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ № 4880.